# Як мае выглядаць камуністычная будучыня

У дванаццатым нумары часапісу «Камуніст» за 1960 год быў надрукаваны агляд адказнага працаўніка апарату ЦК КПСС А. Логіна пад назвай «Чытаючы кнігу аб камунізьме...». Лейтматывам гэтага агляду зьяўляецца сьцьверджаньне недастатковасьці й неканкрэтнасьці асьвятленьня пытаньня аб тым, як будзе практычна выглядаць камуністычны лад — гэты, як яго называе аўтар, «безьбярэжны акіян людзкага шчасьця».

Пытаньне аб неабходнасьці ўдакладненьня пэрспэктываў і формаў пабудовы камуністычнага грамадзтва ў СССР сталася асабліва неадкладным у сувязі із стварэньнем «народных камун» у камуністычным Кітаі. Ствараючы «народныя камуны», як аснаўную базу пабудовы камуністычнага грамадзтва, пэкінскае кіраўніцтва мяркуе аперадзіць Савецкі Саюз, зрабіўшы скок зь «недабудаванага сацыялізму» беспасярэдна ў камунізм. Удача такога скоку наперад уплынула-б на разьмеркаваньне сілаў у сьветавым камуністычным руху, расчысьціўшы Пэкіну дарогу да пяршынства ў кіраўніцтве камунізмам у сьвеце. Дзеля гэтага крэмлёўскае кіраўніцтва адразу заняло адмоўную пазыцыю ў дачыненьні да кітайскіх экспэрымэнтаў.

Асуджэньне кітайскіх пазыцыяў з боку ЦК КПСС дасягнула кульмінацыйнага пункту на XXI зьезьдзе КПСС, на якім Хрушчоў, выступіўшы з тэарэтычнымі фармуляваньнямі, заявіў, што ніводная краіна ня мае магчымасьці ў пабудове камуністычнага грамадзтва абмінуць фазы поўнае пабудовы сацыялізму. Гэта было да некаторай меры папярэджаньнем кітайскаму камуністычнаму кіраўніцтву, на якое апошняе не зьвярнула фактычна ніякай увагі. Больш таго, у канцы 1959 году прэзыдэнт Кітайскай Народнай Рэспублікі Лю-Шао-Чы абвесьціў у журнале «Праблемы міру й сацыялізму» артыкул, прысьвечаны разьвіцьцю народных камунаў, у якім узноў пацьвердзіў, што гэтае разьвіцьцё зьяўляецца базай пабудовы камуністычнага грамадзтва і зь нязьменным посьпехам будзе й далей ажыцьцяўляцца.

Усьведаміўшы няўхільнасьць весьці спаборніцтва з Камуністычнай партыяй Кітаю ў галіне тэмпаў камуністычнага будаўніцтва, КПСС дала заказ Акадэміі навук СССР тэрмінова падгатаваць тэарэтычныя матарыялы аб камуністычнай будучыні Савецкага Саюзу.

23—26 чэрвеня 1958 году ў Маскве адбылася навуковая сэсія аддзелаў грамадзкіх навук Акадэміі навук СССР «па тэарэтычных праблемах пабудовы камунізму ў СССР». Да заданьняў гэтай сэсіі належыла — даць тэарэтычнае абгрунтаваньне няўстойлівай, абаснаванай на прагматызьме, нутранай палітыкі Хрушчова й давесьці, што яна разьвіваецца ў кірунку пабудовы камунізму ў СССР. Гэтак, прыкладам, у пачатку 1958 году Хрушчоў перайшоў да палітыкі перанадзьня дзяржаўнай собскасьці МТС каапэратыўна-калгаснай собскасьці. Гэты рэвізіяністычны зыгзаг быў «абаснаваны» акадэмікам К. Астравіцянавам наступным спосабам:

«У сьвятле апошніх пастановаў партыі ў пытаньнях разьвіцьця калгаснае структуры й рэарганізацыі МТС становіцца ясным, што каапэратыўна-калгасная собскасьць мае магчымасьці перарасьці ў камуністычную форму агульнанароднай собскасьці, ня пераходзячы ў дзяржаўную собскасьць» («Правда», 27. 6. 1958).

Як ведама, тэарэтыкі марксізму-ленінізму раней уважалі, пто ў пэрыяд пабудовы камуністычнага грамадзтва таварна-грашовыя дачыненьні павінны адмерці. Апраўдываючы хрушчоўскую палітыку, Астравіцянаў выйшаў з гэтай сытуацыі наступным чынам:

«... да адміраньня таварнай вытворчасьці й грашовага абароту на высшай фазе камунізму мы прыйдзем у выніку сьветавага разьвіцьця таварна-грашовых дачыненьняў на сацыялістычнай стадыі разьвіцьця» (там-жа).

Была таксама ўведзеная істотная зьмена ў тэзу аб распадзеле ў камуністычным грамадзтве. Астравіцянаў заявіў:

«І на вышэйшай стадыі камунізму, калі будзе ажыцьцёўлены камуністычны прынцып распадзелу паводля патрэбнасьці, ня будзе ўраўнілаўкі, дзеля таго што патрэбнасьці й густы людзей будуць рознымі» (там-жа).

Неабходнасьць канкрэтызаваць абраз камуністычнай будучыні й падагнаць яе пад сяньняшнюю палітыку савецкага кіраўніцтва пацягнула за сабой рад няпрыемных зьяваў. Савецкая моладзь, якая цікавіцца палітыкай, пачала патрабаваць яснага адказу на рад пытаньняў, што датычаць будучыні. У ейным асяродзьдзі пачалі стыхійна ўзьнікаць дыскусіі, у якіх выкрываліся супярэчнасьці, узьніклыя пры падганяньні тэорыі пад практыку. На IV-ым плениуме ЦК ВЛКСМ тадышні першы сакратар В. Сямічастны ў гэтым пытаньні заявіў:

«Жывыя спрэчкі сярод моладзі паяўляюцца на кажным кроку — дома, ў інтэрнаце, на вуліцы. Але вядуцца яны часта бяз нас, бяз нашага ідэйнага ўплыву. А мы павінны памагаць у спрэчках перамагчы тым, чыё гледзішча правільнае» («Комсомольская Правда», 26. 2. 1959).

Нехаценьне савецкай моладзі прыймаць на веру тэарэтычныя хітрыкі тэарэтыкаў камунізму, навет калі яны і праклямаваныя Хрушчовам, і ўсё сільнейшае патрабаваньне выясьненьняў, канкрэтызацыі, довадаў прывялі Хрушчова да раздражненасьці. На чэрвенскім плениуме ЦК КПСС у 1959 годзе ён асудзіў практыку, калі на заводзе

«... выпускаецца бракоўная дэталь, а вы ў той час чытаеце лекцыю аб пабудове камунізму ў нашай краіне.., вы прапануеце на першым пляне паставіць чытаньне лекцыяў аб тым, якое будзе ў чалавека думаньне за сто год пасьля перамогі камунізму. Гэта, праўда, дасканалая лекцыя, і не зразумейце мяне так, што я супраць добрых лекцыяў, але мы з такімі дакладамі й лекцыямі можам пачакаць гадоў пяцьдзесят або восемдзесят» («Правда», 2. 7. 1959).

Такім чынам, з аднаго боку, кітайскія экспэрымэнты вымагаюць ад савецкага кіраўніцтва далейшых практычных або хоць-бы тэарэтычных крокаў, з другога боку, савецкая моладзь, якой Хрушчоў прапануе будаваць камунізм і жыць пры ім, хоча ведаць, што яна будуе і як канкрэтна будзе выглядаць той лад, у якім ёй прапануецца жыць.

Агульны хаос павялічваецца яшчэ й розьніцай пунктаў гледжаньня на камуністычную будучыню ў васяродзьдзі тэарэтыкаў. Бальшыня зь іх з асьцярожнасьці стараецца не ўдакладняць праблемы камуністычнага ладу, некаторая частка займаецца ў карысьць Хрушчову тэарэтычнымі апэрацыямі ў пляне рэвізіі марксізму, а некаторыя выступаюць з радыкальнымі тэарэтычнымі прапановамі.

На асаблівую ўвагу ў гэтым пытаньні заслугоўвае праца акадэміка С. Струміліна «Рабочы быт і камунізм», нядаўна выдадзеная асобнай брашурай і надрукаваная ў журнале «Новы мір» (№ 7, 1960). Па-першае, напісаная яна найбольш дазнаным і заслужаным савецкім статыстыкам і эканамістым; па-другое, яна не адказвае тэарэтычным вывадам многіх выдатных маладых савецкіх вучоных і, па-трэйцяе, яна, падаючы чытачу скрайна артадаксальны абраз будучыні, ня можа не павялічваць хаосу ў галіне канкрэтнага вызначэньня будучага камуністычнага грамадзтва і не ўзмацняць ужо існуючага фэрмэнту думак.

У утапічнасьці Струмілін перасьцігнуў навет тэорыю фаланстараў, сфармуляваную больш ста год таму Шарлем Фур'е. І пастуляты пабудовы новага камуністычнага грамадзтва, і вывады, вызначаючыя яго будучае разьвіцьцё, у Струміліна ўзапраўды няжыцьцёвыя й няверагодныя. У вагульных рысах зводзяцца яны да наступнага.

Шлюбны зьвяз, абаснаваны на любові, гэта — «эгаізм удваіх». Далёка ня кажная сям'я мае права выхоўваць сваіх дзяцей; дастойнымі сябрамі грамадзтва могуць быць дзеці, выхаваныя толькі самым грамадзтвам, дзеля гэтага, на сям'ю ў будучым грамадзтве будзе ўзложанае заданьне толькі радзіць дзяцей. Пасьля нараджэньня дзеці паступаюць вылучна ў веданьне грамадзтва:

«Кажны савецкі грамадзянін, ужо выходзячы з радзільнага дому, атрымае накіраваньне ў дзіцячыя ясьлі, зь іх — у дзіцячы сад з кругласутачным утрыманьнем або ў дзіцячы дом; затым — у школу-інтэрнат, а зь яе ўжо адправіцца з пуцёўкай у самастойнае жыцьцё — на вытворчасьць або на далейшую навуку паводля выбранай спэцыяльнасьці».

Маткі могуць «заглядваць» да сваіх дзяцей «толькі разоў, колькі гэта прадугледжана заведзеным рэжымам». У дзіцячым доме ў дзяцей не павінна быць **собскіх** цацак, атрыманыя ад бацькоў ласункі павінны йсьці ў вагульны кацёл.

Такім чынам на працягу бліжэйшых пакаленьняў

«... ранейшая сям'я ўсё звужваецца да найбольш, пры ўсіх умовах, моцнай — шлюбнай або няшлюбнай, але неразьдзельнай, датуль, пакуль яе зьвязваюць ніці любові — сямейнай пары. А калі й такія вузкія сем'і будуць уважаць ужо нямэтазгодным траціць масу працы на вядзеньне ў сябе, усяго на дваіх, самастойнай дамашняй гаспадаркі, дык тым самым і сям'я наагул, як гаспадарская камэрка, зьліваючыся зь іншымі й перарастаючы ў вялікі гаспадарскі калектыў, распусьціцца ў складзе будучай бытавой камуны».

Аўтар цьвердзіць, што пры жыцьці бліжэйшых пакаленьняў савецкае грамадзтва будзе складацца з бытавых і вытворчых камун. Кажная такая бытавая камуна будзе складацца з 2—2,5 тысячы камунараў і толькі пры асабліва буйных прадпрыемствах лік камунараў можа даходзіць да 10 тысяч. Бытавая камуна будзе жыць у спэцыяльна пабудаваным «архітэктурным ансамблі», які будзе складацца з 3—4-ох этажных будынкаў, у цэнтры якіх будзе знаходзіцца прадпрыемства камуны. У гэтым-жа «ансамблі» будуць памяшчацца і ўсе ўстановы бытавога й культурнага абслугоўваньня (грамадзкая кухня, сталоўкі, пральні, цырульні, залі самадзейнасьці й інш.). На першым этажы будуць знаходзіцца памяшчэньні абслугоўваньня, на другім — памяшчэньні для дзяцей і старых, вышэй будзе жыльлё параў, а яшчэ вышэй павінна жыць моладзь. Струмілін заяўляе, што **сярэдні** савецкі горад будзе складацца прыкладна з 15-ці такіх камун, г. зн. будзе мець 30—35 тысяч насельніцтва й займаць прастору ў тры квадратных кілямэтры. У такіх гарадох «ад акраіны да цэнтру можна

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

# Гістарычная Місія Беларускага Народу

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

ня было фармальнага абвешчаньня Урадам БНР вайны бальшавіцкаму ўраду, — ня мае значаньня.

Слуцкая вайсковая акцыя супраць бальшавіцкае арміі, якая ў шмат разоў перавышала нашую Брыгаду й колькасна й з гледзішча вайсковага азбраеньня, адбывалася ад 27-га лістапада па 31 сьнежня. Шэсьць тыдняў няроўнага змаганьня — ці-ж ня ёсьць гэта праяваю запраўднага ўмельства ваяваць і гераізму?

У гісторыі беларускага народу, адылі, зьява гэтая ня была першаю. На працягу вякоў колькасна меншыя беларускія адзінкі ня раз выступалі супраць дужэйшага ворага й перамагалі. Перамаглі й Слуцкія Паўстанцы. Праўда, яны не маглі парадзіць фізычнай перавазе чырвонае арміі, але прыклад іхнае наважанасьці й адвагі стаўся натхненьнем для будучых беларускіх пакаленьняў і яны, бясспрэчна, перамаглі духам.

Гэта трэба памятаць. Бо Слуцкі Збройны Чын — напэўна не апошні ў нас. Сяньняшняя бальшавіцкая Расея нічым ня розьніцца ад свае панявольніцы й настаўніцы Залатое Арды й дух імпэрыялізму «зьбіральнікаў рускае зямлі» — маскоўскіх князёў ці пасьлейшых імпэратараў з дому Раманавых, кіруе й сяньняшняю крэмлёўскаю клікаю. Бо ці-ж ня збудаваў Ленін сваю чырвоную імпэрыю на праліцьці мора людзкае крыві, ці-ж не ўзыйшоў на маскоўскі пасад Сталін на карках сваіх аднадумнікаў, а тады зьнішчыў іх, будучы няпэўны іхнага вернападданства ў дачыненьні да свае асобы? І ці-ж жахлівы сталінскі тэрор не перавысіў у шмат разоў учынкі Чынгісхана, Тамэрляна, які будаваў пірамідЫ з галоваў зваяваных ім народаў? Ці-ж колькі тыдняў таму выхаванак і верны пасьлядоўнік Сталіна Мікіта Хрушчоў, зьняўшы ў Задзіночаных Нацыях з нагі камаш, ды трасучы ім перад аблічамі прадстаўнікоў усяго сьвету, не засьветчыў найвымоўней, што «маскоўскі бот» і сяньня наважаны душыць усё, на што ён ступіць?

Аднак, вольны сьвет яшчэ трывае, хоць шмат волелюбных народаў згубілі ўжо свабоду. Цяжка пакутуе пад маскоўскім ботам і беларускі народ вось ужо 43 гады. І ніхто ня дасьць яму вызваленьня, калі не здабудзе яго сам народ, калі на моц прыгнятальніка не адкажа моц і наважанасьць народу. Шлях да гэтага паказалі нам гераічныя Случчакі 27-га лістапада 1920 году. І наш народ зноў, раней ці пазьней, узыйдзе на гэты адзіны для нас шлях. Трэба адно ведаць гэта, чакаць гэтага й гартаваць моц духа. У жудасных умовах паняволеньня — захаваць вольны дух і веру ў тое, што час вызваленьня надыйдзе, а наш народ узноў станецца старожаю Заходняе Эўропы перад усходнім барбарствам, як быў ёю на працягу вякоў.

**Ф. Кушаль**

# На парозе новай замежнай палітыкі ЗША

(Заканчэньне з 1-й бач.)

стычным Кітаі. Урад Айзэнгаўэра не даацэньваў праблемаў, якія ставіць Кітай, і разглядаў яго з гледзішча на небясьпеку камунізму. Але ў практыцы Кітай мае так-жа й імпэрыялістычныя традыцыі».

Апошнім часам сярод палітыкаў Дэмакратычнае партыі што раз часьцей падчыркваецца небясьпека з боку камуністычнага Кітаю, да якой Амэрыка павінна быць належна прыгатаваная. У сувязі з гэтым трэба лічыцца з тым, што новая адміністрацыя будзе на дачыненьні зь Кітаем зьвяртаць шмат большую ўвагу, чымся адміністрацыя Айзэнгаўэра.

Паяўляюцца вельмі выразныя сымптомы, што Амэрыка цяпер сканцэнтруе сваю ўвагу так-жа на арабскіх краінах Блізкага й Сярэдняга Ўсходу й асабліва на краінах лацінскае Амэрыкі. Калішні кандыдат на прэзыдэнта Эдлей Стывенсон, якога таксама ўважаюць кандыдатам на міністра замежных справаў, у артыкуле, зьмешчаным у часапісе «Люк», запатрабаваў радыкальнай зьмены амэрыканскай палітыкі ў дачыненьні да лацінскай Амэрыкі й войстра асудзіў у гэтым сэнсе палітыку прэзыдэнта Айзэнгаўэра. Ён піша: «На працягу васьмёх тыдняў я наведаў дванаццаць дзяржаваў (лацінскай Амэрыкі). Прэзыдэнт (Айзэнгаўэр) за дзесяць дзён праехаў праз чатыры дзяржавы. Ён вярнуўся з аптымізмам. Я прыехаў глыбака ўстрывожаным». Стывэнсон цьвердзіць, што з прычыны малой увагі Задзіночаных Штатаў і недастатковай матарыяльнай помачы палавіна жыхароў Паўдзённае Амэрыкі пагаджаецца з думкай здацца на ласку камунізму, а толькі другая палавіна наважаная затрымоўваць камуністычную экспансію.

Гісторыя з Кубай, а так-жа сьвежыя падзеі ў Гватэмалі й Нікарагуа, інсьпіраваныя й успамаганыя Фідэлям Кастро, войстра актуалізуюць канечнасьць грунтоўнае рэвізіі амэрыканскіх дачыненьняў да Паўдзённае Амэрыкі. Таму новая амэрыканская палітыка будзе змушаная прыняць усе меры, каб зьлéквідаваць у корані савецкую інфільтрацыю як на Кубе, гэтак і на паўдзённа-амэрыканскім кантынэньце.

Усё гэта, як успаміналася ў пачатку нашага артыкулу, яшчэ толькі агульныя й, пэўне-ж, далёка няпоўныя зарысоўкі амэрыканскай замежнай палітыкі пры новым прэзыдэньце. Значна выразьней, чымся мэты й кірункі гэтае палітыкі, зарысоўваюцца ўжо сяньня ейныя мэтады. І сам Кэннэды, і ягоныя найбліжэйшыя супрацоўнікі на месцы дасюлешняй палітыкі пасыўнай і безьініцыятыўнай, палітыкі поўмераў, хістаньняў і кампрамісаў абяцаюць палітыку актыўную, цьвёрдую і дынамічную, якая ня будзе ўсяго толькі рэакцыяй на савецкія пачынаньні, але будзе выплываць із собскае ініцыятывы Амэрыкі.

**Язэп Каранеўскі**

# Яшчэ пра зьнішчаньне гісторыі нерасейскіх народаў

У папярэднім артыкуле мы кранулісе тых мерапрыемстваў, якія ажыцьцяўляюцца Масквой з мэтай ліквідацыі гістарыяграфіі й нацыянальнай гісторыі нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу. У сувязі з гэтым трэба парушыць прычыну, ідэялягічныя падкладкі й накіраванасьць гэтае маскоўскае рэакцыі.

Бязумоўна, галоўнай прычынай, якая піхае Маскву на шлях зьнішчэньня нацыянальнай гісторыі нерасейскіх народаў, ёсьць нацыянальны супраціў гэтых народаў, які ў васнаўным чэрпаецца з пазнаньня гістарычнага мінулага. Як-бы не хвальшавалася нацыянальная гісторыя народаў, яна ўсё-такі захоўвае тыя ці іншыя зьвесткі пра народ, а гэта ў сваю чаргу выклікае далейшыя зацікаўленьні, выпрацоўвае нацыянальную сьведамасьць. Тым больш гэта адносіцца да працаўнікоў культуры, асабліва гісторыкаў, якія найбольш сустракаюцца зь мінулым сваіх народаў. Хоць яны й змушаныя ўліваць гісторыю сваіх народаў у «расейскую плынь», аднак у працэсе падбору матар'ялаў для сваіх хвальшывак яны ня могуць ня сутыкнуцца зь гістарычнай праўдай, зь сьведамым маскоўскім рабаўніцтвам. Апошнюю патэнцыяльную загрозу маскоўскаму каляніялізму Масква намагаецца зьнішчыць із зьнішчэньнем нацыянальнай гісторыі.

Ідэялягічная падкладка гэтага барбарызму прыводзіцца тая, што быццам-бы партыя імкнецца ўзгадоўваць савецкае грамадзтва ў духу «сацыялістычнага інтэрнацыяналізму», зьнішчыць апошнія парогі да «камунізму». Цынічнае апраўданьне, бо даволі ведама нашаму чытачу, што гэтае «ўзгадаваньне» ажыцьцяўляецца ў Савецкім Саюзе ў духу патрыятызму расейскага народу, на асновах самае жудаснае каляніяльнае палітыкі.

Як не парадаксальна, але на зрэалізаваньне гэтае задумы як-бы піхае Маскву паступовае ўсьведамленьне на Захадзе й ува ўсім вольным сьвеце загрозы маскоўскага імпэрыялізму й каляніялізму. Масква ўважае, што шляхам зьнішчэньня нацыянальнай гістарыяграфіі, а затым і нацыянальнай сьведамасьці нерасейскіх народаў, яна зможа, папершае, задушыць голас паняволеных ею народаў і, падругое, гэтым задушэньнем голасу падсавецкіх народаў зможа разрадзіць атмасфэру падазрэньня навонках.

У вагульным пляне свайго супрацьдзеяньня ўнутры Савецкага Саюзу, апрача ўспомненых мерапрыемстваў па ліквідацыі гісторыі нерасейскіх народаў, праектуецца шалёнае нацягваньне гэтае гісторыі на расейскі капыл. Вонках Савецкага Саюзу прадугледжваецца ўзмоцненае змаганьне з «буржуазнымі выкрыўленьнямі» гісторыі СССР і падсавецкіх народаў, а таксама навадненьне вольнага сьвету «праўдзівай навуковай» гістарычнай літаратурай з «праўдзівай», як гаворыць Масква, гісторыяй падсавецкіх народаў і зь гісторыяй савецкага «сацыялізму».

У сувязі з гэтым узьнікаюць новыя праблемы перад савецкай гістарычнай навукай, галаўнейшыя зь якіх наступныя.

У першую чаргу ідзе так званае абгрунтаваньне «гістарычных» правоў Расеі й расейскага народу на панаваньне над нерасейскімі народамі, што ўвайшлі ў склад расейскай імпэрыі. Прычынаў для гэтага знайшлося многа. Папершае таму, што расейскі народ «мае права» на гістарычнае й дзяржаўнае існаваньне ды забясьпечыць гэтае сваё існаваньне. У довад тут прыводзяцца й «законамернасьць» разьвіцьця дзяржаваў, і «эканамічныя», а не шавіністычна-палітычныя, прычыны росту гэтых дзяржаваў, і чыста нацыянальныя інтарэсы, што быццам-бы можа быць вылучана зь гісторыі другіх народаў. Падругое таму, што Расея й расейскі народ прыносілі й нясуць падбітым народам не каляніялізм, але нацыянальнае й сацыяльнае вызваленьне, што яны зьяўляюцца «заступнікамі пакрыўджаных народаў» (?!). Патрэйцяе таму, што расейскі народ з прыроды сваё зьяўляецца «перадавым», найбольш «прагрэсыўным» і «культурным» народам. Ён першым стварыў рай на зямлі — «сацыялізм», а таму пакліканы гісторыяй панаваць над другімі народамі. Чыста нацыстоўская тэорыя пра «вышэйшых» і «ніжэйшых» людзей, але што-ж зробіш, калі Масква хварэе на падобную заразу. Гэтая рыса расейскага народу й Расеі заўсёды праяўлялася й у мінулым.

У сувязі з гэтым увага савецкіх гісторыкаў павінна быць зьвернута на выяўленьне й абаснаваньне так званае «прагрэсыўнасьці» прылучэньня нерасейскіх народаў да Расеі. Гэтаму пытаньню ўжо шмат прысьвечана «гістарычных» працаў, што зьявіліся нядаўна на нутраным савецкім рынку; над ім у васнаўным працуюць цяпер усе гісторыкі нацыянальных рэспублік. Далей, савецкая гістарычная навука, калі яе толькі можна назваць так, павінна канчаткова ўстанавіць, што нацыянальнае пытаньне даўно вырашана ў Савецкім Саюзе й вырашана ў карысьць нерасейскіх народаў. Тым больш, яна павінна засьветчыць перад народамі ўсяго сьвету, што савецкае вырашэньне нацыянальнага пытаньня зьяўляецца «самым разумным» і мусіць стацца прыкладам для ўсіх бяз выключэньня народаў.

Крыху ня вяжыцца з успомненай «прагрэсыўнасьцяй» царскай каляніяльнай палітыкі, але савецкія гісторыкі мусяць выступіць супраць атаесамленьня на Захадзе царскае й савецкае нацыянальнае палітыкі, царскага й савецкага каляніялізму. Яны мусяць таксама змагацца з канцэпцыямі заходніх гісторыкаў, якія лічаць, што крыніцай савецкага каляніялізму й агрэсіі, крыніцай цяперашняга маскоўскага таталітарызму й дэспатызму, крыніцай сяньняшняга падсавецкага нявольніцтва служаць расейскія навыкі, запазычаныя ў Татара-Манголаў, у палітыцы Івана Грознага й Пётры Першага. Ведама, гэтага змаганьня ня было-б, калі-б заходнія гісторыкі, як гэта з прыкладам заходніх камуністычных падпявал, размалёўвалі савецкі рай ды выказвалі захапленьне зь гістарычнага «генію» расейскага народу. У Савецкім Саюзе так і робіцца, дзе іваны грозныя й пётры першыя выступаюць як нацыянальныя героі ня толькі расейскага народу, але й другіх паняволеных народаў. Што-ж тычыцца прымітыўнасьці й брутальнасьці савецкага нявольніцтва й каляніялізму, дык тут Масква шмат аперадзіла сваіх прашчураў. Адным словам, расейскі дух прагрэсуе назад, ён ня толькі што дае аб сабе знаць, але й разьвіваецца да перапоўненых берагоў.

Аднак, захопленая сваей «гістарычнай» роляй, Масква працягвае вышукоўваць у незавідным засеку свае гісторыі «прыклады» й «асновы-асноў» людзкога прагрэсу, «агульныя» й «аб'ектыўныя» законы гісторыі людзтва. Тут яна знаходзіць і «супольнасьць» гістарычнага разьвіцьця эўрапэйскіх народаў і народаў усяго сьвету, і гістарычную місію Расеі, пачынаючы ад Кіеўскай Русі (Расея — гэта працяг гісторыі Кіеўскай Ру-

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Літаратурны Дадатак

## З паэтычнага багацьця Натальлі Арсеньневай
### у Слуцкую Гадавіну

Сьвет на ахвярніку усьцяж ахвяры паліць.
Паўзе пурпурны дым паўзь месты, паўз
шляхі...
Не насумуешся па тых, каго ня стала,
ня хопіць дзён аплакаць сяньня ўсіх.

Чырвонымі сьлязьмі скрывавілі рабіны
дарогі ў далячынь...
Каб нагарнуць, набраць
аж прыгаршчы тых сьлёз пякучых і
палынных,
асыпаць імі наш народ, наш горкі край!

Лынуць крывёй яны, лынуць смалой
гарачай
на душы, спапяляць сасмаглую кару,
што атуляе іх...
Але — найгоршым плачам
ня купіцца усё-ж зварот у Беларусь!
Таму — няхай ідуць дажджы крывавых
ягад.
Не апалошчам мы у іх ні рук ні душ.
Змагацца за свой край, за супакой,
за радасьць —
наш кон...
Відаць, так нам судзіў ён нараду.

1944 г.

### ЛІСТАПАД

Дагараюць, таюць сьвечкі ліпаў... Восень.
Кроплі воску — ліст — услалі мох.
Хоць тугі у госьці мы ня просім,
тут яна...
і тужыцца само.
Хутка зноў рудое зрэб'е змроку
лістапад пачне вакол сьцяліць
зноў успомнім мы (ня зьняць урокаў)
змагароў, што зьлеглі у зямлі.
І ня раз павесмам зьвіснуць рукі,
на расьніцах сьлёзы зацьвітуць.
Ды ня сьціхне сэрца мерны стукат
і змаганьне з доляю — і тут.
Наліюцца наквецьцю вясновай
і яны калісьці, родныя палі.
Ласкавейшае для нас кон знойдзе слова,
хай за тое, што ў распачы
па сынох, па згубленых братох,
мы жыцьця ня выплакалі ў плачы,
ня зыйшлі з гасьцінцаў у быльнёг.
Дагараюць, таюць сьвечкі ліпаў... Восень.
Кроплі воску капаюць на ймхі...
Перад намі — ходаньне ізь лёсам,
новы боль,
і новыя шляхі.
1947 г.

### МЫ ЙШЛІ...

Гула штось глуха ноч,
сьляпая, чорная.
Чарнейшыя — ці ёсьць у лістападзе?
Да гэткай цемры золкай ня прыгорнешся...
Гарнуўся ўсё-ж і той і гэты —
што-ж парадзіш?

Каторую пару брылі мы нясупыннаю,
нярадаснай хадой ад кусту да куста.
І найжвавейшыя жадалі ўжо хваінамі
нязрушнымі навечна тут прыстаць.

Мы йшлі, ня зьдзеіўшы таго,
што ў зыркім полымі
гарачае крыві зрадзілася, цьвіло.
Затое ў клёнах, восеняй аголеных,
за намі паланела роднае сяло.
Мы йшлі, а нашы слуцкія сасоньнікі
тулілі нас бязрадна ў туманы.
Мы йшлі...
Ды не на Ўсход,
у вязь старое хронікі
уплесьці новы чын...
Ішлі на Захад мы...
Ці помніў хто, што накш
нядаўна сэрцы біліся,
што накшы правадыр,
ня боль глухі, нас вёў?
Крывавілі шляхі апошнімі рабінамі
і першаю юнацкаю крывёй?

Гула штось глуха ноч,
сьляпая, чорная.
Чарнейшыя ці й ёсьць у лістападзе?
На душаў дно,
на восенскія ворывы
асеньні золкі сум залою падаў.
А мы —
ішлі, ішлі, ішлі, хаваючы
ратуючы гадоў апошніх жменю.
Ішлі на Захад мы... Няхай...
То дачакаемся:
завернем на Усход
і мы і наша зьмена.
1947 г.

### ЎСІХ ПАМЯТАЕМ МЫ

Як адыйходзіць хто ад нас, — із сумнай
пакорай мы яго вядзем у нябыцьцё.
Ці ён адзін адведаў крыўд і глуму,
быў на зямлі чужынцам і гасьцём?
Усё-ж мінае:
срыбныя туманы
і жоўты жаль асеньніх вечароў,
надзеі маладыя нашых раньняў,
і год даўгіх раз — гора, раз — дабро...
Адлі у шэрыя сутоньні лістападу
тугою трапяткой мы ўсё-ж усе гарым
і трызны залатыя ў сэрцах ладзім
тым, каго у песьнях клічуць «змагары».
У сініх сасьнякох айчыны несьмяротнай
за шчасьце ейнае яны тады ляглі...
Кладуцца і цяпер, крадком, у вадзіноце,
і дзе канцы —
ці скажа хто й калі?
Ўсіх памятаем мы...
Нас паляць успаміны
і прыйдзе дзень —
мы ўспыхнем, як зьнічы.
За змагароў, за лёс таптанае радзімы
не паміраць,
мы жыць паймкнем у далячынь!
1948 г.

### НАД ПАЎСТАНСКАЙ МАГІЛАЮ

Кастрою срыбнаю прысыпаны кусты.
Кранешся —
і кураць густым і белым дымам...
Тут пахаваны, кажуць, хтосьці з тых,
што аддалі жыцьцё,
каб жыць магла Радзіма.
Зацерлі золь, слата
няўзнак
імёны, год.
Із наспай роўнае ўзьнялося пустазельле.
Ды запыні, спытай абы каго:
«Жывыя — скажа ўсьлед — хай целы
і сатлелі»!
Крыжы стаяць, няхай — пакленчылі яны.
Ці-ж лёгка несьці год важкіх і чорных
ношу?
Ня ў памяць пэўна й ім, каго тут кон
спыніў,
ні колькі іх зьлягло,
вясёлых і харошых...
Ці йшлі яны у бой ізь песьняй маладой,
ці доўга несьлі боль, аж палі гэтта ніцма,
ці на Дзяды мядзяныя, увосені,
зь бядой
прыйходзіць хто па іх паплакаць,
памаліцца?
Ці горка ім было як зьнічкі дагараць,
ледзь да прысягі Бацькаўшчыне ўзьняўшы
рукі,
ці ведаюць яны,
што за народ, за край
крывавяць скрозь яшчэ браты, сыны ды
ўнукі?
Ці звоняць з году ў год ім звонкія лісты
і «памяць вечную», і «са сьвятымі»?
Ці знаюць —
не памрэ ніхто й ніколі з тых,
што аддалі жыцьцё,
каб жыць магла Радзіма?
. . . . . . . . . . . . .
Ідучы за Яе у нямінучы бой,
як сьцяг, ахрышчаны крывёю,
кожын
змагар іх памяць панясе з сабой...
І — пераможам!
1952 г.

### ВЫ ПАЙШЛІ ПАМІРАЦЬ

«Мы пайшлі паміраць, каб жыла
Беларусь».
Гэтак звалася драма, якую прад сьветам
вы зайгралі тады (ападаў напару
лістапад і на вецьце, на рунь, і ў разоры)...
Вы зайгралі «на біс» бяз суфлёраў, бяз рад,
бяз куліс, бязь кінкетаў,
— дзіўныя акторы.
Рэквізыт ваш быў просты:
рызман палявін
паабапал, пры ўзьлесьсі — гасьцінец
сацьмелы,
шчыльна ўбіты ў шчыт ельніку месяца
клін,
золь на вейках, сівы, важкі подал шынэлі,
жменя куль, трохлінейкі рамень праз руку
і бандаж у крыві —
бел-чырвоны і белы.
Трыццаць ночаў і дзён вы гулялі... Адны...
І ніхто, ані хто вам ня біў у далоні,
хоць гучней раз у сто,
як званоў перазвон,
сэрцы нечыя білі вам там, па над лоняй
недатканых красён, перасталай дзяжой,
колкай голкай, што ў шво, за сьлязіма,
ня лучыць,
над калыскай,
ставочнай паўночай ужо,
неспакойна вам білі, балюча...
Але ўпойны, салодкі быў смак перамог,
сьпеў крыві,
маладая, узьлётная радасьць!
Дык і гралі вы зь верай, што ўрадзім,
што Бог...
ды крыжы, што гужамі над пражай дарог
прарасьлі,
што каханьне...
Гралі вы, ажно роем дапалі мяжы,
ўжо ня воі тады,
а трагічныя здані,
аж хапілі сьсінелыя вусны вады
з набрынялай счарнелае
Лані...
Тут —
далі вам заслону і вы перайшлі
Рубікон свой няслаўны, а гэткі славуты,
каб, як здаўна, зноў кону пытацца: «калі»?
неабутыя
шчасьце тачаць для абутых,
верадзіць вашай верай людзкія вульлі,
ў рукі хухаць, у пясьці... й маўчаць,
хоць баліць
у замкнёныя стукацца дзьверы.
Мітусь год, стырты спраў
прытрусілі крыжы,
што над пражай дарог, папрысушвалі
раны...
Але чын «тых, што йшлі паміраць»
будзе жыць
аж ня кінуць хінуць між збажын,
на сьвітаньні
пакаленьні
калені ў крыві, у гразі,
прад табою, сьвятою, Айчына,
аж ты, Маці, гаркіх не сцалуеш сьлязін
зь вейкаў,
вуснаў
ды ранаў
змаганьніка — сына.

1956 г.

---

З нагоды 550 гадавіны Грунвальдзкай бітвы

## Дыпляматычны талент Вітаўта перад Грунвальдзкай бітвай

**(Працяг)**

**Актыўнасьць Крыжакоў.**

Пагром Маскоўшчыны Татарамі, неакрэсьленасьць Вітаўтавай рэакцыі ў Жамойці — давалі большую сьмеласьць Крыжаком у іх агрэсыўных плянах. Яны ўзмоцнілі націск на прысудзіў быў іх Польшчы. Зачынілі шчыльна граніцу з Польшчу ды інтрыганства між Вітаўтам і Ягайлам, каб іх пасварыць. Занялі таксама Дрэздэнка і Санток, хоць Вітаўт прысудзіў быў іх Польшчы. Зачынілі шчыльна граніцу з Польшчай і Ліцьвой. Пачалі актыўней прабівацца ў Мазуршчыну. Вітаўт бачыў, што Крыжакі хочуць адарваць Мазуршчыну ад Ліцьвы. Таму ён інтэрвэньюе ў гэтай справе, заяўляючы свае правы на Мазуршчыну ды на тое, што землі за Бобрай патрабуюць яшчэ ўзаемнага ўпарадкаваньня. А каб зламаць крыжацкую таргову бляскаду Ліцьвы, Вітаўт просіць в. Майстра выпазычыць караблі ды прапусьціць праз Прусы транспарт збожжа з Польшчы ў Ліцьву. Крыжакі на гэта згадзіліся, каб пасьля магчы налажыць сэквэстр на літоўскі транспарт ды гэтым націскаць на Вітаўта.

**Крыжацкія торгі ў справе Жамойці.**

Пад шум «дабрадзейства» свайго з пропускам транспарту збожжа ў Ліцьву, Крыжакі пасылаюць сваіх паслоў у Коўню да Вітаўта на палітычныя торгі. Вітаўт сам сустрэў Крыжацкую дэлегацыю па-за мурамі места ды прыняў яе з усімі пачотамі. Галоўнай справай была Жамойць. Крыжакі націскалі, каб Вітаўт забраў сваіх 250 літоўскіх баяраў. Вітаўт не хацеў гэтага зрабіць, а таксама не хацеў згадзіцца на закрыцьцё граніцы між Ліцьвой і Жамойцяй. Перамовы вяліся ў вострым тоне з абодвых бакоў. Вітаўт быў расстроены й абураны асабліва, калі Комтур Брандэнбурскі Сульцбах прыпомніў яму патройную зраду Закону.

Каб паказаць сваё абурэньне, Вітаўт зараз-жа паслаў ганцоў да в. Майстра, рубам стаўлючы справу, ці Крыжакі хочуць вайны ці міру? Відавочна, Вітаўт хацеў маланкавай пастановай узьняць перапалох у Крыжакоў, ды гэтым паўстрымаць іхнюю акцыю ў Жамойці. Але хітрыя Крыжакі ведалі Вітаўта. Яны ня выявілі ніякага перапалоху, а ў сваім адказе ў дыпляматычным спакойным тоне паўтарылі ўсе абвінавачваньні Ліцьвы адносна Жамойці, а каб не паліць усіх мастоў — далі пісьмовы дазвол на перавоз збожжа ў Ліцьву з Польшчы.

Вітаўт зразумеў, што справу Жамойці можа вырашыць толькі меч і што гэтай справы нельга надоўга адкладываць, пакуль Крыжакі там належна не ўмацаваліся.

**Дыпляматычныя захады Вітаўта.**

Патрэбны аднак быў некаторы час на ваенныя падрыхтаваньні, а гэта значыць, трэба было даць некаторы адбой напружаным адносінам.

«Дарагі Майстру, — піша Вітаўт, — ты просіш нас, каб мы ня бралі так да сэрца словы Комтура, каторымі нядаўна нас зьняважыў. Пэўне-ж ён мусіў мець нейкія прычыны, што зьвярнуўся да нас з гэткімі словамі. Можа дадумваўся, быццам мы супраць Закону складаем нейкія варожыя пляны, або зноў Закон мае гэткія адносна нас. Можа ўявіў сабе, што мы хочам пасварыцца з Законам і маем супраць яго зрадніцкія намеры. Сам ты, Майстру, можаш бачыць, ці нам магло быць прыемна слухаць падобныя словы, навет калі яны былі сказаны ў добрай веры. Што тычыцца Жамойці, аб каторай кажаце, быццам нашыя людзі мелі яе непакоіць, даеце нам прыклад аб вугорскім і польскім каралю Людвіку, каторы меў вам адступіць Добрынь пад умовай, што кажны год будзеце мець сокала ў дані, нічога больш. Я, прызнаюся, гэтага прыкладу зусім не разумею, да чаго ён адносіцца. Але што тычыцца нашых подданых, каторыя маглі-б рабіць у Жамойці шкоды й непаладкі вашым, то прашу вас, будзьце ласкавы кажны раз нам іх перадаць, а мы іх пакараем, як нарушальнікаў парадку. Калі гэтага ня зробім, можаце тады нас падазраваць у варожых намерах.

Паведамляеце нас, нібы мы дрэнна прынялі вашага маршалка Закону, прысланага да нас у пасольстве. Вось-жа калі ён прыбыў да нас, мы выйшлі насустрач яму асабіста аж да рэчкі Нэрге, узялі пад руку, завялі ў замак, запрасілі да стала. Выявілі яму прыязьнь і ўшанавалі яго як найлепш ды запрасілі другі раз да стала, але ён ня прыняў запросінаў, а мы пайшлі за яго воляй. Ня ведаем, у чым мы нарушылі гасьціннасьць адносна маршалка. Аднак просім вашую дастойнасьць, будзьце ласкавы нас павядоміць дакладна, у чым мы выступілі супраць вашага маршалка, каб мы маглі ведаць пры падобнай нагодзе, як маем трымацца, калі прыдуць вашыя паслы.

Перасьцерагаеце нас, каб злосьцю не псавалі сабе крыві, бо нядоўга патрывае прыязьнь паміж намі, дык непатрэбныя словы злосьці. Просім вашу дастойнасьць, будзьце ласкавы, выясьніць нам, у якім гэтта значаньні вы сказалі такія словы? Я нічога больш ня маю, як толькі тое, што між намі яшчэ трывае прыязьнь і добры мір, а нат не дадумваюся, нібы між намі ненадоўга патрываюць такія адносіны. Урэшце паведамляю вас, што я паслаў да Лецка, згодна з нашымі ўмовамі па беглых зь Ліцьвы, каторыя да нас паўцякалі, але ваш тамтэйшы ўраднік адправіў маіх паслоў зь нічым, паклікаючыся на Закон, нібы ў гэтай справе ня было ніякага загаду. Уканцы дзякую вашай дастойнасьці за дазвол нам дадзены, каб можна было наняць вашыя караблі ў Торуні для перавозу збожжа, каторае нам даў польскі кароль. Просім вас, павядомце вашых ураднікаў у Торуні аб гэтай вашай волі, каб як толькі прыбудуць туды нашы паслы, было ведама, як да іх адносіцца» (Код. эп. Вт, б. 173).

Ліст гэты, авеены ўражаньнем «шчырасьці», выклікаў у

# І хрысьцячы мяне агнём...

## ВЫЗВАЛЕНЬНЕ

Збамбілі ля турмы увесь квартал —
і я пайшоў у сьвет раскутым.
Як радасьць для сябе, вайну я прывітаў
радкоў маіх лірычнейшым салютам.

Стаяў такі празрысты дзень, мауляў
на ўзмор'і пенай вымыты салёнай!
Я цэлы сьвет багаслаўляў
затым, што быў я сам багаслаўлёны.

Маліўся сіле сонца агнявой
і дню, што лёс мой перайначыў.
Я самалёту кажнаму над галавой
жадаў найлепшае удачы.

Як зьвязаныя ніцямі душы,
у лёце ня гублялі яны згоды.
І крыльле іх у сонечнай вышы
гарэла водблескам мае свабоды.
1960 г.

## ЖЫВЫ УСПАМІН

Засумаваў я па табе, радзіма,
па недаступнай па тваёй красе.
Кудысьці адыходзіш ты ўсё міма
і забываешся, даруй мне, пакрысе.

Цябе я пакідаў, я думаў, не надоўга —
празь месяц, праз другі вярнуся зноў.
Але цягнік далей мяне ўсё тоўхаў:
як назнарок — назад ня йшоў.

Я чуў — варочалася глуха
зацятаю вайной зямля.
У мятусьліва-неспакойным руху,
што мне рабіць — падчас ня ведаў я.

Агнём твае мігалі вейкі
у суцемках, за рысаю зямной:
Ты, хрысьцячы мяне агнём, навекі
разьвіталася споламах зы мной.

І сумаваў, і плакаў я, і верыў,
і гневаўся — іду бязь бітвы, так.
Дармо, што я ня быў жаўнерам,
я сэрцам вычуваў гарачыню атак...

Я пакідаў цябе да хуткага спатканьня
і я зьбіраўся у дарогу назусім...
Цяпер шкадую, што на разьвітаньне
«Бывайце» не сказаў усім...

З часоў шчымлівых тых, яскравых
прайшло ўжо колькі год!
А мы іх беражэм, як славу,
як найвялікшы наш паход!

Засумаваў я па табе, радзіма,
сум сівіць галаву.
Ты адыходзіш некуды, як быццам міма,
Хоць я табою і жыву.
1960 г.

## ПАЭМА ПРА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

Шмат на сьвеце ёсьць вокан-краін,
што глядзяцца у неба далінамі, роўнядзяй, сіньню вазёр,
але ёсьць на сьвеце краіна адна,
што глядзіцца вачыма маімі —
гэта Бацькаўшчына мая.

Быццам лёгшы наўзныч — тварам да неба —
яна моліцца ў сіняву і просіць ратунку.
Удзень яна млее на сонцы,
а ўночы — над ёй вышыня
зорамі сьхіляецца, як маці над калыскай.

Бацькаўшчына, ад мяжы да мяжы
Ты глядзіш вачыма сваімі,
мне-ж здаецца — што гэта і вочы мае...

Калі Твая кукавала зязюля,
адбівалася гэта у сэрцы маім,
і зязюля навекі маёй засталася.

Калі Твае лясы таямніча шумелі уночы,
у маёй душы паднімалася ,сьпела натхненьне,
што вяртаў я табе назад —
з удзячнасьці да Цябе —
вершам, паэмай.

На мяне Ты глядзіш зь вякоў,
і я бачу Цябе ў вяках,
як-бы ў тых вяках быў я разам з Табою.

Вясной ад хваляваньня жытоў
замірала сэрца, шчыміла,як радасны боль.
На Цябе я глядзеў, як малое дзіця,
і Ты радвалася маёй прастэчы.

Ня высыхала мая сьляза,
як мяне ад Цябе забралі, —
ці смуцілася Ты па мне хоць крышку?
Зязюляй,
Лясамі,
Жытамі?

Ці гатова была за мяне заступіцца,
як мяне штыхом падпіралі?
Ці балела Табе, як мяне калолі, гналі і білі?

А я чуў Твае раны, сьлёзы і гора.

Шмат на сьвеце ёсьць вокан-краін,
што глядзяцца у неба далінамі, роўнядзяй, сіньню вазёр.
Але ёсьць на сьвеце краіна адна,
што глядзіцца вачыма маімі —
гэта Бацькаўшчына мая.

Засталіся вочы мае — сьвятло маё — там,
тут яны нічога ня бачаць,
часам толькі ў неба зірнуць, каб зраўнаць,
ці такое як там, на радзіме.

Мне здаецца, што там я прарос вачыма:
імі ў неба глядзяцца шкельцы нашых усіх вазёр,
сенажаці — краскамі яркімі, жоўтымі, сінімі.

Ад маіх вачэй сьвет гарыць над Табою,
белы сьвет, што успыхнуў, як я нарадзіўся —
гэтым сьветам Тваім цэлы сьвет я меру.
Твае травы зь зямлі прарастаюць маімі вушамі
і — тырчастыя — слухаюць цэлы сусьвет,
ноччу — белую музыку зор.

Твае лясы стаяць на маіх грудзёх,
быццам на вялізнай купіне;
закалышацца дрэвы — уздымаюцца грудзі мае.

А Тваё стагнаньне мне й тут
стогнам маткі маёй аддаецца.

Шмат на сьвеце ёсьць вокан-краін,
што глядзяцца у неба далінамі, роўнядзяй, сіньню вазёр,
але ёсьць на сьвеце краіна адна,
што глядзіцца вачыма маімі —
гэта Бацькаўшчына мая.

## СУРОДЗІЧЫ МАЕ...

Суродзічы мае!.. Ды голас мой
пачуеце вы, шчыры і адданы?
Як жораў, кружыць ён над галаю зямной,
бясьсільна звонячы у вашыя кайданы.

...Цяпер тут ноч, і я пішу ў цішы
захоплены свабодай выяўленьня —
пра ўсё, што высьпела ў маёй душы
і што згаджаецца з маім сумленьнем.

Вядомыя мне вашы думы й сны,
як-бы расталіся мы толькі ўчора...
Я чую тут шчэ пах сасны
і багуну, і ягад, і чабору.

Палянаў водыр мляўкі і пчалы
бзумклівы гуд на сонечным пакосе...
Ну, як ня скласьць свае хвалы
аб тым, чым раз дыхнуць мне давялося?

...Цяпер тут ноч. Ды голас мой
ці чуеце вы, шчыры і адданы?
Як жораў, кружыць ён над галаю зямной,
бясьсільна звонячы у вашыя кайданы.
1960 г.

## СЬЛЕДАМ ЗА ПЕСЬНЯЙ

Каму ўсе радасьці жыцьця,
лірычных песень згукі, —
не для пацехі й забыцьця —
мне песьня дадзена для мукі.

Турэмшчыкі аднойчы на зары
забачылі яе: ад мукі —
стаіць пакорлівая на двары
і ззаду зьвязаныя рукі.

Хацела стуль яна ўцячы —
ірвалася з-за крат акордам.
Але на допыце ўначы —
лірычную — пабілі морду.

Дапытваліся цэлы год,
гнілым кармілі шчаўем.
Ганяла і балеў жывот,
але каб выйсьці, ня пушчалі.

На суд павезьлі — чысты змор —
на лаўцы седзячы, яна самлела:
за зраду Бацькаўшчыне пракурор
патрабаваў расстрэлу.

Пакутвала яна, калі
бязь мяккага пад бокам
галодную, пад лаўкаю вязьлі
ад Менску да Ўладывастоку.

А там зноў шчасьце — як каму...
І хоцькі ці няхоцькі,
яна плыла на Калыму
Японскім і Ахоцкім.

Страшэнна за дарогу падвяло,
і без харчоў і сілы,
яна — хоць лезь ты у сіло —
на шахце тачкі поўныя вазіла.

Дармо: хоць білі у цішы
і пхалі нанач у задуху —
ня выбілі зь яе душы
і песеннага духу.

Ці яна была на Калыме
ці ў камеры вільготнай, цеснай,
ці сьмерць была ў яе на ўме —
яна была заўсёды — песьняй.
1960 г.

## СІНІЯ ВОЧЫ

Сьвісток —
і ў вагоне жаўнер,
і на пэроне сінія вочы
рукою махаюць — туга і давер
у зграбнай пастаці дзявочай.

О, гэтыя вочы і гэта пастаць
з чароўнай усьмешкаю весьняй!
Далей-бы ня ехаць, навекі тут стаць
хаценьнем, паглядам і песьняй!

Ды ўвоміг рвануўся цягнік,
ударыла пылам і ветрам.
Як-бы й ня было яго — зьнік,
грукочачы гулка у нетрах.

Праз вокны глядзеў на палі
жаўнер, і як быццам уночы,
нічога ня бачыў — цьвілі і плылі
толькі постаць і сінія вочы...
1960 г.

## ВЯСНА

Тут ні палёў табе і ні лясоў, ні гаю,
тут пэрспэктыва іншая і тон:
прастор — наколькі толькі вока дасягае —
замураваны у зялеза і бэтон.

І тут і там, здаецца, без патрэбы
натоўпы небаскробаў — прывідаў жывых
стаяць, высока ўрэзаўшыся ў неба,
як помнікі майстром, што збудавалі іх.

І ўсюды там, дзе чалавеку незаезна —
вышэй птушыных чорных зграй —
масты ўзьняліся радугай зялезнай,
гігантамі сягнуўшы з краю і на край...

Бэтон. Пясок... Ды што я? Пахне мусіць
на дошкі зрэзаная на двары сасна...
Сакавіковы дзень, і дзіву я даюся —
вылазіць із бэтону й каменю вясна.
1960 г.

**М. Сяднёў**

---

крыжацкай Радзе прыхільнае дачыненьне крыжацкай старшыны да Ліцьвы. Вялікі Майстар з свайго боку стараецца апраўдаць комтура й прыпамінае некаторыя справы з Польшчай і Мазуршчынай, у якіх, паводля Крыжакоў, Вітаўт стаяў не па крыжацкай старане. В. Майстар і цяпер намагаецца, каб Вітаўт не мяшаўся ў польскія й мазурскія справы ды ня дзеіў у карысьць Ягайлы.

Але Вітаўт ведаў, што толькі супольнымі сіламі зь Ягайлам зможа зламаць Крыжакоў. Таму ў сваім лісьце з Трокаў (к. э. Вт. б. 175) выказвае свае правы на пагранічныя землі з Мазуршчынай і да самой Мазуршчыны, вынікаючыя з розных дакумэнтаў. Абураецца таксама на нявыдачу Ліцьве Крыжакамі літоўскіх зьбеглых.

### Літоўскія парадкі ў Жамойці.

Уся справа пачала пахнуць вайной. Вітаўт выслаў тайныя інструкцыі ўва ўсе канцы В.К.Л. аб падрыхтоўцы да вайны. У Жамойць выслаў новых агентаў. А каб змыліць насьцярожанасьць Крыжакоў, надалей перапісваецца ў прыязным тоне зь Вялікім Майстрам. Аднак Крыжакі ведалі, да чаго ўсё гэта йдзе. Хочучы змусіць Вітаўта да памякчэньня, яны заарыштавалі літоўскія транспарты із збожжам у Рагнеце. Вітаўт адказаў яшчэ мацнейшымі сяродкамі. Вось выслаў свайго даверанага Рамбоўта на чале збройных аддзелаў за Нявяжу з мэтай узьняць паўстаньне ў Жамойці супраць Крыжакоў. Рамбоўт заняў два жамойцкія паветы: Сангавішкі й Крэткінова. Жамойцкі Солтыс зараз-жа запратэставаў перад Вітаўтам, што ўзброеная Ліцьва пераходзіць жамойцкую мяжу й займае крыжацкія землі. Вітаўт, прыняўшы выгляд нявіннага ягнятка, адпісаў: «Ведай, дарагі Солтысе, што ўсё гэта без майго ведама. Мы пагрозамі й войстрымі словамі іх пакараем» (к. э. Вт. б. 175). А ў іншым лісьце прапанаваў: «Сьпішыце па імені нашых Ліцьвіноў, каторыя на вас нападаюць, а я ўжо загадаю, каб вас і ў вашым краі больш не непакоілі» (26 траўня 1409).

Ясная рэч, гэта была цынічная насьмешка над Крыжакамі. Хутка паўстаньне ахапіла ўсю Жамойць. Літоўскія баяры Гейлемін і Трумпа зь сільнымі аддзеламі разьязджалі па ўсёй Жамойці, даючы загад: «Кароль Ліцьвы наказвае вам, каб вы выступілі супраць Крыжакоў. Да самай Азеруны застаўляйце дарогі бярвеньнямі, раскопывайце іх равамі аж да самых нямецкіх граніцаў. Рабіце вашую зямлю недаступнай для Немцаў. Хутка сам Вітаўт прыйдзе з войскам і выкіне Крыжацкія заставы з Жамойці» (к. э. Вт. 180).

На запытаньне Солтыса, што сталася, што Ліцьва гарцуе ў Жамойці, Вітаўт цынічна адказваў, што ён нічога ня ведае, што праступнікаў пакарае. Жамойцы зы свайго боку ўсю віну звальвалі на «караля Ліцьвы». У Мальбаргу паўстаў нябывалы клопат. В. Майстар далей выведвае становішча. Ён піша ліст да Вітаўта й прыкідваецца прыяцелем, просячы парады ў жамойцкіх справах. Вітаўт спрытна адказвае: «Як доўга Закон дзейнічыў паводля нашай рады, я заўсёды быў гатовы вам радзіць. Але ад таго часу, калі Закон яе не патрабуе ды паводля нашых радаў не паступае, ня лічу сябе ў вабавязку служыць вам радамі, каторыя цяпер былі-б лішнімі» (К. эп. Вт. б. 981—982).

У гэтым самым часе Ягайла пасылаў у Мальборг польскіх пасланцоў. 9 чэрв. 1409 прыняў іх у Эльблонгу в. Майстар. Палякі захоўваліся так, нібы нічога ня ведаюць аб жамойцкіх выпадках ды імі ня цікавяцца. Выкладаліся крыўды Польшчы, спрычыненыя пагранічнай агрэсіяй Крыжакоў. В. Майстар з свайго боку павядоміў іх аб выпадках у Жамойці ды дамагаўся, каб Польшча й Ягайла не мяшаліся ў жамойцкія справы і каб не заступаліся за Ліцьву. Паслы абяцалі зрабіць, як прасіў в. Майстар (Рачынскі, К. д. Л. 97—101; К. эп. Вт. 983).

А тымчасам літоўскія баяры Рамбоўт, Варыбут, Клаўсігайла, Гетот, Големін злучылі свае аддзелы ды заўладалі ўсёй Жамойцяй, забраўшы сыноў жамойцкага баярства як закладнікаў, якіх выслалі ў Ліцьву (К. эп. Вт. 186). Румбаўт быў вызначаны Вітаўтам на жамойцкага кашталяна.

Нямецкія заставы ў замках былі акружаны равамі, засекамі й валамі ды кажны дзень чакалі нападу.

Вярнуўшыся зь Ліцьвы, нямецкія купцы апавядалі Крыжаком, што Вітаўт на народным вечы меў сказаць, што даўно казалі яму каралі Польшчы й Масквы, каб ня трымаў зь Немцамі міру, на што ён аднак раней ня мог згадзіцца. Цяпер аднак мае нязьбітыя довады, як Крыжакі з аднаго боку націскаюць на Ліцьву, а з другога — нападаюць на Польшчу й адбіраюць ёй землі й замкі як напр. Дрэздэнко; калі яны больш хочуць мець, як ім належыцца, а мяне ня слухаюцца, дык ім я аб'яўлю вайну (К. эп. Вт. 183).

### Жамойцкая дэлегацыя ў Ліцьве

У сярэдзіне чэрвеня 1409 г. была дадзеная ў Ліцьве ваенная трывога. Рамбоўт рабіў ваенныя падрыхтаваньні ў Жамойці. Зь яго загаду прыбыла жамойцкая дэлегацыя з Расены да Вітаўта ў Коўню, каб прысягнуць на вернасьць Ліцьве й пакінуць сваіх заложнікаў. Дэлегацыя прасіла дапамогі ў вызваленьні Жамойці. Вітаўт, бачачы, што кругом многа купцоў нямецкіх і шпіёнаў, у сваёй прамове войстра злаяў Жамойцаў, што яны выступілі процiў Закону. Ноччу адправіў жамойцкую дэлегацыю ў Вільню, дзе прыабяцаў вызваленьне Жамойці (к. эп. Вт. 183-183). І гэты прыклад ёсьць тыповым для дыпляматычнай акцыі Вітаўта. Жамойцкай дэлегацыі не мясьцілася ў галаве каркаломная палітыка Вітаўта. Жамойцаў пераймаў страх, што Вітаўт іх можа зрадзіць, а за бунт проціў Немцаў спаткае іх цяжкая крыжацкая помста.

— Спадару — казалі яны да Вітаўта, — а навошта ты загадаў нам будаваць замкі Крыжаком, калі ты ня думаў дзяржаць зь імі міру?

— Супакойцеся — казаў літоўскі кароль, — як толькі сяляне зьбяруць збожжа з поля, зараз-жа я паадбіраю замкі нямецкім паном. Страх ваш зусім не патрэбны, а замкі крыжацкія больш вас ня будуць палохаць. (К. эп. Вт. 186, Прагаска, 121).

**(Працяг будзе)**

# З успамінаў Слуцкага Паўстанца

**Ад Рэдакцыі:** Адзін з нашых супрацоўнікаў, сп. Я. Запруднік, зьвярнуўся пісьмова да сп. Ю. Х., што браў удзел у Слуцкім паўстаньні, з просьбай напісаць успаміны. Сп. Ю. Х., у меру сваіх магчымасьцяў, ахвоча адгукнуўся на гэтую просьбу. Ніжэй зьмяшчаем урывак зь ягоных успамінаў.

✶

Нарадзіўся я ў 1896 годзе каля мястэчка Грозава, Грозаўскае воласьці, Слуцкага павету. Бацька мой меў зямельную гаспадарку. У школу пачаў хадзіць зь 10-цёх год, у 1905 годзе, і вучыўся з восені да травеня, а ўлетку пасьвіў каровы.

Увосень 1908 году памёр мой бацька, і я змушаны быў пакінуць вучэньне ды памагаць маці й старэйшаму брату весьці гаспадарку. У сакавіку 1914 году памерла маці, брата неўзабаве маскалі забралі ў войска, і я застаўся сам даглядаць гаспадарку й дзьвёх сясьцёр. Урэшце, у жнівені 1915 году забралі й мяне ў войска ў веку 19-ёх год. Гаспадарка без гаспадара за вайну зьнішчылася, коні й каровы маскалі пабралі.

У царскай арміі я прайшоў вучобную каманду й стаўся зводным камандзерам з рангай капраля.

У сьняжані 1917 году, аднак, пасьля дэмабілізацыі на расейска-бальшавіцкім фроньце, я вярнуўся дамоў (брата Немцы забралі ў палон), прывёзшы з сабой кулямёт, тры вінтоўкі, рэвальвэр, два цынкі гранатаў, пяць цынак патронаў і дзьве кулямётныя йстужкі.

У студзені 1918 году прыйшлі Немцы й прабылі да сьнежаня таго-ж году. Сьледам за імі, у студзені 1919 году, прыйшлі бальшавікі й у сакавіку абвесьцілі мабілізацыю маладых год. Мабілізацыя была прызначаная на 19-га сакавіка і мой год народжаньня падпадаў пад яе.

Дзеля таго, што ў мяне былі дзьве сястры (адна калека), якімі трэба было апекавацца, я пастараўся атрымаць на паперы селавы прыгавор, у якім гаварылася, што я адзінокі, што няма каму працаваць на зямлі ды што няма каму апекавацца сёстрамі. З гэтым прыгаворам я й зьявіўся ў Слуцак на мабілізацыйны пункт. Падыйшоўшы да камісара Лебедзева, я паказаў яму прыгавор. Ён адказаў мне на гэта, што трэба йсьці бараніць свабоду, бо йнакш прыйдуць белыя дзянікінцы. Я працівіўся, аднак, і сказаў, што не пайду датуль, пакуль ня будуць забіраць апошніх гаспадароў з гаспадарак. Лебедзеў выхапіў рэвальвэр і загадаў чырвонаармейцам арыштаваць мяне, але поўная заля мабілізаваных не дапусьцілі да гэтага, і я, скарыстаўшы з сумятні, уцёк у места на рынак, расказаўшы там аб чыненым гвалце.

На рынку было людна й шумна. Студэнт Ліхадзіеўскі (зь сяла Леткаўшчына) ускочыў на воз і пачаў заклікаць: «Далоў камуну! Няхай жыве вольная Беларусь! Беце камуністых, вызваляйце свой народ!» Мабілізаваныя хапіліся хто за што мог: за дугі, за аглоблі; некаторыя мелі зброю. Міліцыянтаў пабілі й паабяззбройвалі (былі пазабіваныя й параненыя). І толькі тады бальшавіком удалося разагнаць натоўп навабранцаў, калі прыйшлі два панцырныя аўтамабілі. Шукалі Ліхадзіеўскага й мяне, але нас ужо там ня было. Пасьля гэтага выпадку ў Слуцку па сёлах пачалі езьдзіць карныя аддзелы для змаганьня з «дызэртырамі і контррэвалюцыянерамі».

Тымчасам у кажнай воласьці пачалося мясцовае вышкаленьне маладых для змаганьня з бальшавікамі. У нашай Грозаўскай воласьці вышкаленьнем гэтым кіраваў ахвіцэр Павал Цімошак зь сяла Аксаміты. Школіць маладых ён прызначыў капраля Ляхчынскага зь сяла Гарнастаева. Зь Цімошкам меў сувязь і я: ён даваў заданьні абясшкоджваць з групай хлапцоў-аднавяскоўцаў мясцовыя камуністычныя самаўрады. Мы абодва належалі да тайнае арганізацыі «Зялёных», якая й кіравала вышкаленьнем рэкрутаў ды нападамі на бальшавіцкія аддзелы.

У чырвені 1919 году бальшавікі парассылалі па нашых ваколіцах карныя аддзелы. Злавіўшы двух дэзэртыраў зь сяла Папоўцы, яны даведаліся пра мяне, прыгразіўшы, што зловяць мяне й расстраляюць. Пра ўсё гэта я даведаўся, і аднае ночы зь 15 хлапцамі зрабіў пры тракце засаду. У часе сутычкі чырвоны камандзер быў забіты, а чырвонаармейцаў мы абяззброілі й перабавілі іх у лясны штаб да Балаховіча.

Пасьля гэтага ў нашае сяло прыяжджаў бальшавіцкі конны аддзел, але мы з хлапцамі (якія адначасна мусілі працаваць на гаспадарках) пасьпелі ўцячы ў бярэзьнік, адкуль жытам падыйшлі да тракту й каля лесу зноў зрабілі засаду. Пасьля сутычкі бальшавікі не далічыліся ў сябе двух коньнікаў.

Калі я вярнуўся ў сяло, даведаўся, што карнікі хацелі забраць з мае гаспадаркі карову й сьвіньню, але сёстры пачалі плакаць, і людзі за іх заступіліся таксама, кажучы чырвонаармейцам, што калі я вінаваты, дык хай мяне й ловяць. Іхны камандзер сказаў, каб я сам зьявіўся да іх, бо інакш яны йзноў прыедуць і тады ўжо забяруць усё. Пагрозе гэтай не давялося, аднак, збыцца, бо ў канцы ліпеня зьявіліся Палякі. Затое бальшавіком удалося злавіць Цімошка, які ад іх больш і не вярнуўся.

Аддзелы «бацькі» Балаховіча й галоўны штаб знаходзіліся на Палесьсі недалёка ад Давід-Гарадка, а ягоная арганізацыя ў 1919 г. была дзейная па ўсіх паветах, і тыя, хто не хацеў ісьці ў чырвоную армію, належалі да гэтае арганізацыі.

Генэрал Балаховіч меў вялікую армію, што, як і ўкраінская армія Сымона Пятлюры, змагалася з бальшавікамі. Калі пятлюраўцаў бальшавікі былі прыціснулі, Балаховіч дазволіў ім быць на сваёй палескай тэрыторыі. Калі-ж, аднак, пачалі здарацца частыя выпадкі дзікога захоўваньня пятлюраўцаў (гвалты, рабункі), генэрал Балаховіч загадаў Пятлюру вывесьці свае аддзелы назад на Ўкраіну, дзе яны пасьля й былі разьбітыя бальшавікамі. Пазьней Балаховіч із сваімі аддзеламі перайшоў у Белавескую пушчу й пратрымаўся там да 1920 году.

У травені 1920 г. бальшавікі павялі наступ на Палякоў і дайшлі аж да Віслы. Генэрал Балаховіч гэтым часам быў ужо ў Белавескай пушчы, прыняўшы да сябе рэшткі разьбітае польскае арміі. Выйшаўшы з пушчы, Балаховіч з тылу павёў атаку на бальшавікоў, якія ў выніку гэтага апынуліся адрэзаныя ад тылавое арміі. Над Бугам адбыліся жорсткія баі, і пасьля людзі гаварылі, якой чырвонай была вада ў Бугу. Апынуўшыся ў цяжкім стане, бальшавікі дагаварыліся з Палякамі на перамір'е, і польская армія стала па рацэ Пцічы. Бальшавіком гэным часам сілы патрэбныя былі для змаганьня зь Дзянікінам, якога неўзабаве ім удалося разьбіць.

Дзесьці ў палавіне кастрычніка 1920 г. бальшавікі заявілі Палякам, што польская армія заняла вялікую частку беларускае тэрыторыі на ўсход ад ракі Шчары бязь ніякага бою. Яны пачалі дамагацца, каб Палякі адыйшлі назад за раку Шчару. Пачаліся спрэчкі.

Тымчасам Палякі заявілі прадстаўніком беларускіх арганізацыяў, што яны згодныя, каб тэрыторыю на ўсход ад ракі Шчары занялі беларускія вайсковыя аддзелы. Палякі навет паабяцалі Беларусам памагчы бараніць Беларускую Народную Рэспубліку й адагнаць бальшавікоў за раку Бярэзіну. Прапанова гэтая падтрымвала беларускія надзеі на адваёву БНР. Пачалося інтэнсыўнае фармаваньне беларускіх вайсковых аддзелаў.

У Слуцку адразу-ж сфармаваўся паўтысячны аддзел міліцыі. Стварылася таксама Слуцкая Рада. Беларускія ахвіцэры праводзілі вэрбаваньне па воласьцях.

Тымчасам вярнуўся зь нямецкага палону мой брат. Да нас у Грозава прыехаў таксама прапаршчык Пётра Бабарэка, зь сяла Старыцы, што 9 кілямэтраў ад Грозава. Ён абвесьціў мабілізацыю й разьвесіў мабілізацыйныя афішы. Да яго далучыліся й мы з братам. Мабілізацыйны век быў ад 20 да 40 год. За кароткі час мы сфармавалі аддзел зь пяцьсот чалавек.

У Рызе гэтым часам ангельскія й францускія арбітры польска-савецкага канфлікту разглядалі на карце спрэчную тэрыторыю паміж Шчарай і Пцічам і пастанавілі, што польска-савецкая мяжа будзе праходзіць па рацэ Лані.

Пагадзіўшыся на гэткае разьвязаньне пытаньня й ведаючы, што па ўсёй спрэчнай тэрыторыі фармуецца беларускае войска, бальшавікі кінуліся займаць тэрыторыю ад Пцічы да Лані, каб ня даць Беларусам магчымасьці ўмацавацца.

Мы атрымалі загад рухацца ў Семежава на фармаваньне. Раненька 10 кастрычніка 1920 году мы выйшлі з Грозава, вязучы з сабой усё, што нам магло прыдацца ў паходзе й баёх. Начавалі ў Цімкавічах. Падарозе да нас далучыўся аддзел сілаю 150 стральцоў з Грэскае воласьці пад камандай ахвіцэра старое арміі Міколы Віткі зь сяла Праходы.

11 кастрычніка ўсе разам, 650 чалавек, мы ўвайшлі ў Семежава й выстраіліся із сьцягамі на невялікім рынку, адсьпяваўшы беларускую марсэльезу «Адвеку мы спалі». Пасьля гэтага нас прывіталі й разьмясьцілі па хатах. Назаўтра быў сход: выбіралі каманьдзераў. Памятаюцца некаторыя прозьвішчы: камандзерам Слуцкага палка стаўся капітан Анцыповіч, камандзерам Грозаўскага палка — капітан Семянюк, камандзерам 4-га батальёну Слуцкага палка — Гаўрыловіч, І-га батальёну Грозаўскага палка — капітан Самусевіч, 2-га батальёну Грозаўскага палка — штабс-капітан Мяцеля зь сяла Малая Млынка Цараўскае воласьці. Кавалерыйскімі аддзеламі кіраваў паручнік Кернажыцкі. Хто кіраваў артылерыяй не памятаю.

Перад наступам чырвонаармейцам былі кінутыя лятучкі з заклікам пераходзіць да нас. Гэтым часам выявілася таксама, што палкоўнік Чайка, што быў з намі, выслаў бальшавіком пакет і апісаў усю нашую сілу й род зброі. Нашыя патрулі злавілі Чайкавага пасланца й прывялі ў Семежава да камандзера брыгады. Чайку арыштавалі й пасадзілі ў ваднэй пустой хаце, адкуль ён, аднак, уцёк, прадраўшы страху.

Раніцой 27 лістапада, маючы Слуцкі полк на правым флянгу, а Грозаўскі на левым, мы пайшлі ў наступ. Да Слуцку дайшлі безь вялікіх сутычак, але ў Слуцку адбыўся жорсткі бой, і бальшавіцкі батальён быў разьбіты. Гэтым часам да нас пачалі пераходзіць чырвонаармейцы. Мы дайшлі да Ўрэчча, дзе йзноў быў вялікі бой. За дзьве гадзіны Ўрэчча было таксама ў нашых руках, і мы пайшлі далей, правы флянг на Пагост і Старобін, а Грозаўскі полк на левым флянгу заняў Покаршаў і Вераб'ёва. Тут нас сустрэла, аднак, новая сіла праціўніка — лічныя аддзелы ахвотнікаў і Кітайцаў, — цэлая дывізія супраць нашае аднае брыгады. Пасьля падыйшла яшчэ адна бальшавіцкая дывізія, і мы, адбіваючыся, пачалі плянавае адступленьне. У Слуцку й Грозаве былі жорсткія баі. Было шмат забітых з абодвух бакоў. Сваіх раненых, дзе можна было, мы адпраўлялі ў Нясьвіж і Клецак у шпіталі. Ля Раманава й Капыля йзноў былі баі. Цяжка было супрацьстаяць напору масы Кітайцаў, і мы адыйшлі далей на захад да лініі Вызна — Васільчыцы — Кажушкі Лядныя — Чарнагубава — двор Савічы. Бальшавікі намагаліся акружыць нас, але мы загіналі флянгі і ўніклі акружэньня. Тут адбыліся апошнія баі. Грозаўскі полк лініяй агню прыкрываў пераход рэшты войска на польскі бок, а пасьля перайшоў туды й сам. Зброю давялося скласьці. Грозаўскі полк затрымаўся ў Нясьвіжы, Клецку й маёнтку Яновічы пад Клецкам; Слуцкі полк — у Сіняўцы, Ганцавічах і Лунінцы.

Нас разьмясьцілі па сёлах: Бабаевічы, Кушчыцы, Дунайчыцы, Гарбуноўшчына, Сякерычы, Блятчын (Малы й Вялікі), Нясьвіж (Новае Места), Пахабаўшчына

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

## *З паэтычнага багацьця Натальлі Арсеньневай*

(Заканчэньне з 4-ай бач.)

### ТЫ НЕ АДНА

Ты не адна,
о, Случчына,
ні першай
ты ня была у нас, ні на табе — канцы.
Нядолю й славу нашую ня прыцярушыць
стынь.
Ублытаны яны нат у чужыя вершы —
Монтэ-Касына
і Катынь...

І, неаплаканых сьлязою жоўтай воску,
іх — слуцкіх ці наваградзкіх — ляжыць
ці мала ўжо уздоўж бязьмежнае мяжы
зямлі, у нетры таежнай, на ўскраі родных
вёскаў...

Крыжы бо ўсюдых
і крыжы...

Было ўсяго у нас: паходаў трубы, горны
баёў, распаленых дачырвана, мячы
нязможныя пад Воршай і мячы
Грунвальду.... шлях да мораў торны...
І Каліноўскага
пачын...

Але...

Быў Сакавік... і вал счарнелы целаў
у палынох сівых над Ворсклай...
Амсьціслаў...
Вядроша... Быў вякі чужым папас,
паплаў...
І быў — ды й ёсьць — Усход, крывавы
і дадзелы,
што лёс на каркі
нам усклаў.

Хто нас не прадаваў, ня браўся йрваць
з карэньнем,
хто парасткаў зялёных не таптаў?
Ці ўвосень не па іх галосе Палата,
ўздыхае прадзед — Нёман і старэнна
складае сказ народ...
Хай так...

Ды мы — жывыя ўсьцяж, нат тыя, што
памершы,
і заўтра ўжо мо зноў лынуць у бой байцы,
жаўнерскай песьні губячы гасьцінцам
бубянцы,
бо — не адна ты, Случчына, у нас.
Ні першай
ты ня была,
ні на табе й канцы.

1960 г.

# Творы Алеся Гаруна

**Ад Рэдакцыі.** Гэтым пачынаем друкаваньне твораў аднаго з нашых паэтаў-клясыкаў нашае літаратуры, Алеся Гаруна. Пасьля выдрукаваньня ў «Бацькаўшчыне» творы гэтыя выйдуць асобнай кніжкай. Яшчэ раз апэлюем да чытачоў памагчы нам у вадшуканьні друкаваных тэкстаў паэты, якіх нам яшчэ не стае. Пералічаем гэтта найважнейшыя з гэткіх твораў:

Жывыя казкі. Творы для дзіцячага тэатру. Менск, 1920 г. Зборнік твораў для дзіцячага тэатру, Менск, 1920 г. (Алесю Гаруну ў гэтым зборніку належыць толькі пераклад п'есы «Датрымаў характару»).

Вершы паэты пад псэўдонімамі Алесь Гарун, Сумны, Сальвэсь, зьмешчаныя ў выданьнях:

«Беларускае жыцьцё», часапіс, Вільня, 1919 г., №№ 11, 22; «Беларусь», газэта, Менск, 1920 г., №№ 40, 73, 147; «Вольная Беларусь», Менск, 1917 г., №№ 26, 33, 36; 1918 г. №№ 1, 3 (апавяданьне «П'еро й Калёмбіна»), 8, 9, 12, 14, 20—21, 29, 31, 39—40; «Беларуская Рада», газэта, Менск, 1917 г., № 1; «Белорусское Эхо», газэта, Менск, 1918 г., № 2; «Зажынкі», зборнік, Масква, 1917 (або 1918) г.

## Матчын дар

### Думы й песьні

### 1907—1914

Гэтую першую кніжку думак і песьняў сваіх матцы сваёй прысьвячаю.

### ЛЮДЗЯМ

Люблю і я скляпеньне зор,
Люблю зямлі прасьцяг,
І роўны луг, і ўзьгібы гор,
І шум лясны, і зьвяг.
Люблю жыцьцё, а ў ім людзей
І кшталты іхных душ;
Люблю вянкі плясьці з надзей,—
А не паэт. — Чаму-ж?
Часамі праца ўдзень кіпіць, —
Цярплю і я прыгон, —
Аж косьць аб косьць з пляча рыпіць...
Пачуеш сэрцам звон, —
Ухопіш зык, за ім другі,
За тымі больш ідуць,
Зьліюцца ў сьцяг даўгі-даўгі
І цэлы дзень гудуць.
Загасьне дзень, іду дамоў,
Кладуся спаць, і ў ноч
Цякуць радкі зьвінючых слоў,
І сон адходзіць проч.
Тады пішу. Перад вачмі
Снуецца зданяў рой,
І хтось стаіць паза плячмі,
Здаецца, блізкі свой.
Абыйме шыю пара рук
І кос дзявочых шоўк,
Змацніцца ў сэрцы мерны стук,
А звон ў душы ня змоўк...

Зірну: пакой пусты, няма...
А час сьлізнуў, як вуж.
І за вакном радзее цьма...
А не паэт... — Чаму-ж?

Бо мой прыгон глытае час,
Мне воля — рэдкі дар.
Такіх паэтаў шмат у нас,
Дзе сам народ — пясьняр.
Сваіх тут жменьку я сьпісаў
Маркотных песьняў-дум;
Маёй душы іх сам сьпяваў
Па краі родным сум.
Скажу яшчэ, чаго-б хацеў:
Зь дзявочых вусн пачуць
Хаця-б адзін мой бедны сьпеў,
Хаця-б калі-нябудзь!

### РОДНАМУ КРАЮ

Чаму з маленства, з ураджэнства,
Ў жыцьцёвы май,
Ня ўмеў, як маці шанаваці
Цябе, мой край?
То-ж я з тваёю ключавою
Сьвятой вадой
Напіўся болю аб нядолі,
Бядзе людзкой.
То-ж ты, мой хмуры, даў мне пануры
І ціхі гнеў,
А днём падчасным, так пекным, ясным
Надзею грэў.
Тваe-ж курганы, лясы, паляны,
Дубкоў тых шум,
Палёў абшары, люд бедны, шары,
Далі мне дум.
А дум тых многа... Не, ня убога
Ты даў мне іх,
І ты-ж, як маці, навучыў сьпяваці
Аб думах тых.
Я браў, ня бачыў і не аддзячыў
Табе нічым,
Бо шчараваны, — цябе, ўкаханы,
Ня знаў зусім.
Цяпер хоць знаю, дык што-ж параю
Ад позных скрух,
У чужой краіне памалу гіне
За целам — дух.
Вазьмі-ж хоць сьпевы, дум перапевы
Лясоў тваіх, —
З тваёе глебы, з тваёга неба
Узяў я іх.

1911

### НОЧНЫЯ ДУМКІ

Часам я ўночы сны дзіўныя бачу:
Роіцца нейкі нязьведаны край,
Повен то шчасьця, то жаласьці, плачу,
То зло-хмурлівы, то сьветлы, як рай.

Бачу вялікія стэпы знад Нёмна;
Туліць у сьлёзах матуля сынка;
Сьцелецца пушча глухая і цёмна;
Косьці з магілы глядзяць бедака...

Бачу я — жоўтае жытнае поле
Коласам ціха шуміць-шалясьціць,
Межы, курган векавечны і хвоя,
Каня з аднэю малітваю «піць»!

# Пытаньні парушаныя сп. К Мерлякам

### НА ПРАДВЫБАРЧЫМ ВЕЧАРЫ 15 КАСТРЫЧНІКА У БЕЛАРУСКІМ ГРАМАДЗКІМ ЦЭНТРЫ У ПРЫСУТНАСЬЦІ ПРАДСТАЎНІКОЎ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ І ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ПАРТЫЯЎ

**АД РЭДАКЦЫІ:** Дня 21 лістапада сёлета Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» атрымала копію афіцыйнага ліста (датаваную 15 кастрычніка сёлета) старшыні Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) сп. К. Мерляка да сп. Прэзыдэнта Рады БНР інж. М. Абрамчыка, які пачынаецца наступным сказам: **«Ад даўжэйшага часу Рэд. «Бацькаўшчына» не памяшчае або цэнзуруе (выкідае цэлыя сказы) дасыланыя для друкаваньня матарыялы Галоўнае Управы (БАЗА) Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня».** Далей пералічваюцца тры «матарыялы» БАЗА, якіх «Бацькаўшчына» не надрукавала. Пасьля гэтага йдуць самыя фантастычныя абвінавачаньні Рэдакцыі «Бацькаўшчыны», сфармуляваныя ў грубым і няпрынятым у культурных дачыненьнях між арганізацыямі тоне. Ліст канчаецца пагрозьлівым ультыматумам наступнага зьместу: **«У сувязі з павыжшым ад імя Галоўнае Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня моцна пратэстую і заяўляю, што калі Рэд. «Бацькаўшчына» не надрукуе поўнасьцю прамовы старшыні Галоўнае Ўправы БАЗА з IV-тай Сустрэчы і матарыялы з дыскусіі на прадвыбарчым вечары, выясьняючы прычыну спазьненьня, не пазьней 15 сьнежня 1960 году, гэты ліст і ўспомненыя матарыялы будуць надрукаваныя ў даступных беларускіх і небеларускіх газэтах, а таксама Галоўная Управа БАЗА змушаная будзя заняць адпаведнае становішча і падаць яго да ведама Беларускаму грамадзтву у вольным сьвеце а перадусім у Амэрыцы».**

Ніжэй зьмяшчаем **поўнасьцю й бязь ніякіх зьменаў** (г. зн. бяз «цэнзуры»), дзеля прыкладу, вышэй успомненыя «матарыялы з дыскусіі на прадвыбарчым сходзе» ня дзеля таго, каб выканаць часткова ультыматыўнае патрабаваньне сп. Мерляка, але каб чытачы на гэтым прыкладзе самі пераканаліся бяз нашых камэнтэраў, чаму Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» некаторых пісанінаў сп. Мерляка зусім ня друкуе, а некаторыя «цэнзуруе», г. зн. «выкідае цэлыя сказы».

Пры гэтым уважаем за патрэбнае адцеміць, што некаторыя прысыланыя раней сп. Мерлякам афіцыйныя «матарыялы Галоўнай Управы БАЗА» й друкаваныя ў «Бацькаўшчыне», у запраўднасьці былі «матарыяламі» аднаго сп. Мерляка, а Галоўная Ўправа БАЗА даведавалася аб іх толькі пасьля іхнага надрукаваньня. Гэтак на паседжаньні Сакратарыяту Рады БНР з удзелам прысутнага тады ў Нью Ёрку прадстаўніка Рэдакцыі «Бацькаўшчыны» дня 24-га верасьня сёлета выясьнілася, што зьмешчанае ў № 28 «Бацькаўшчыны» з 17 ліпеня 1960 г. «Становішча Галоўнае Ўправы БАЗА адносна IV Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі», у якім некаторыя беларускія арганізацыі ня былі запрошаныя прыняць удзел у Сустрэчы й квалі́фікаваліся, як «аднаасабовыя» й «сямейныя», было асабістым становішчам сп. К. Мерляка, бо Галоўная Ўправа БАЗА да часу ягонага надрукаваньня зусім аб ім ня ведала.

*

1. Мы зацікаўленыя у так званым «пытаньні камунізму» (Communist issue), што на маю думку зьяўляецца у сучасны момант самай галоўнай праблемай на сьвеце, бо пытаньні школьніцтва, памешканьняў і лекарскай дапамогі гэта другарадныя пытаньні, таму што мы бачылі як Хрушчоў барабаніў бацінкамі па стале у АЗН і хто ведае ці ён у блізкай будучыні не паспробуе барабаніць бомбамі па ЗША.

2. Дык тады што сабою прадстаўляе «пытаньне камунізму»? Камунізм, або як яго часта называюць многія, уключна Department of State «Інтэрнацыянальным камунізмам» як загроза наагул на зямлі ня існуе, а ёсьць гістарычны вялікарасейскі імпэрыялізм, з якім трэба й мець да чыненьня.

3. Расейскі імпэрыялізм ідзе наперад, раней ён збіраў «Русскіе Землі» пазней абараняў «Панславізм», а цяпер маніцца апанаваць светам пад прыкрыўкай вызваленьня працоўных з пад капіталістычнага панаваньня. Амэрыка і вольны сьвет змагаецца з няіснуючай «сілай» інтэрнацыянальным Камунізмам» пакідаючы вольную руку расейскаму імпэрыялізму.

4. Як-жа процідзеілася пашырэньню «камунізму»? Дэмакратычная адміністрацыя з Прэзыдэнтам Труманам праводзіла палітыку «паўстрыманьня» камунізму што не паўстрымала Расейскага і Кітайскага імпэрыялізмаў, які пашырыў уплывы на Карэю, Інда-кітай, Тыбэт ды у іншыя мясцовасьці. Пасьля дэмакратычнай. Рэспубліканская адміністрацыя з Эісэнговэрам пачалі або вярней думалі праводзіць палітыку «вызваленьня» што пазней замянілі на «справядлівы мір». Усе гэтыя змены у назове палітыкі, у сутнасьці яе не зьмянілі. State department і сяньня ніхоча прызнаць што сіла камуністычнай агрэсіі гэта ёсьць Расейскі імпэрыялізм — больш нішто іншае.

5. Урад ЗША заўсёды падтрымоваў народы Асіі і Афрыкі у здабыцьці свабоды і незалежнасьці, але ніколі не падтрымоваў вызваленьня народаў Савецкага Саюзу. Вам ведама што Савецкі Саюз абыймае 14 Рэспублікаў не расейскіх, якія былі вольнымі і незалежнымі дзяржавамі у розных пэрыядах часу з культурай і гісторыяй тысячагадовай, ня маюць падтрымкі Амэрыкі, што ёсьць абсалютна незразумелым. Нацыянальная праблема Савецкага Саюзу зьяўляецца самай дэлікатнай, аб чым вы пераканаліся як Хрушчоў рэагаваў у АЗН, калі хто гаварыў аб паняволеных народах. Хаця Хрушчоў на тэлевізыйным інтэрвью «Адкрыты канец» заяўляў што Беларусь, Украіна. Армэнія Грузія і другія Рэспублікі свабодна могуць выйсьці з Саюзу, то кожны ведае што гэта мана, бо ўсе спробы вызваленьня былі здушаныя як і спроба Вугорцаў у 1956 годзе. Усе нацыянальныя рухі былі брутальна зьнішчаны, рэзультатам чаго Беларусь страціла на працягу 20 гадоў 6 000000 насельніцтва, згодна Савецкага перапісу а у сапраўднасьці напэўна больш.

З гэтага мы бачым як прошлая так і цяперашняя адміністрацыя праводзіла падвойную палітыку; падтрымовалі вызваленьне у Асіі і Афрыцы з аднаго боку а з другога пакінулі вольную руку Расейцам у праводжаньні русыфікацыі і вынішчэньня паняволеных народаў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы.

6. Як-жа гэта выглядала на практыцы?

Рэзалюцыя наладжаньня дыпляматычных суадносянаў з Савецкай Беларусіяй і Украінай прадставіў у Кангрэсе, кангрэсмэн Лляврэнсэ Г. Смітг — рэспубліканец то Department of State пры дэмакратычнай адміністрацыі ня прадпрыняў ніякіх захдаў каб гэта ажыцявіць. Пры рэспубліканскай адміністрацыі кангрэсмэн Леонард Фарбстэін — дэмакрат, унёс такую самую рэзалюцыю, але і цяперака State Department ні звярнуў ніякай увагі, паміма ўсяго што гэтае пытаньне было вельмі важнае у вядзеньні халоднае вайны. ЗША мелоб магчымасьць мець больш інфармацыі з недаступных нікому тэрыторыяў СССР, паднялоб на духу супраціву русыфікацыі Беларусі і Украіны, ды аснаўное гэта былоб у духу прынцыпаў падтрымованьня здабыцьця свабоды усім народам.

**Голас Амэрыкі**

Ад часу паўстаньня перадачаў праз Голас Амэрыкі на розных мовах народаў Савецкага Саюзу, беларуская мова ня была уключаная, хаця Беларусь ёсьць на трэцім месцы па вялічыні у СССР. Раней Department of State а пазьней Агэнцыя Інфармацыі, на нашыя дэмаршы, мэморандумы і пэрсанальныя інтэрвэнцыі адказвалі пры дэмакратычнай адміністрацыі: «што Беларусы разумеюць расейскую мову дык няма патрэбы арганізаваць асобны беларускі аддзел Голасу Амэрыкі», пры рэспубліканскай адміністрацыі адказвалі «што няма на гэта грошай». Адказы абедзьвёх адміністрацыяў былі ня шчырыя а да пэўнай ступені сьмешнымі бо ачавідвна Урад ЗША не хацеў наражацца на непрыемнасьць з боку Расейцаў як белых так і чырвоных. Мы Амэрыканцы беларускага паходжаньня чуемся здэскрымінаванымі і пакрыўдзанымі.

**Рэзалюцыя аб устанаўленьні «Тыдня Паняволеных Народаў»**

Гэтая рэзалюцыя была вынесена дэмакратычным кангрэсам, хаця і ўсе рэспубліканцы таксама за яе галасавалі бо была прынятая аднагалосна, то Голас Амэрыкі яе не перадаў па радыё а толькі Праклямацыю Прэзыдэнта. State Department загадаў радые «Вольная Эўропа» і Радые «Свабода» таксама не перадаваць, бо ў рэзалюцыі называўся расейскі імпэрыялізм сваім сапраўдным іменем. Радые «Свабода» якое адмініструецца Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад Бальшавізму пашоў нават далей, ён забараніў нават перадаваць у Савецкі Саюз Праклямацыі Прэзыдэнта і толькі на пратэст арганізацыяў перадаў прыблізна 3 нядзелі пазьней. Як бачыце палітыка заўсёды таясамая — не перашкаджаць Расейкаму імпэрыялізму пры працы.

7. Што гавораць плятформы партыяў? Рэспубліканская плятформа за «пашырэньне свабоды на цэлым сьвеце», а Віцэ Прэзыдэнт Ніксон у сваёй, прымаючай намінацыю, прамове прапануе стварыць асобнае Міністэрства, якое будзе вясьці вызваленьне паняволеных народаў і займацца нацыянальнымі праблемамі і каардынаваць дзейнасьць у халоднай вайне. Гэта выглядалоб на крок уперад пазытыўнай палітыкі, бо да гэтага часу каардынацыі ня было. Камітэты створаныя для гэтай мэты вялі кожны у паасобку сваю замежную палітыку, замест удзяліць належную увагу на супраціў расейскаму камунізму яны займаліся ўладжаньнем асабістым і эміграцыйных лідэраў. Але як Рэспубліканцы будуць дзеіць прышласьць пакажа!

Дэмакратычная плятформа нядвузначна кажа што дзярзавы Цэнтральнай Эўропы (сатэліты) павінны быць вольнымі, але нічога не гаворыцца пра народы Савецкага Саюзу у тым ліку і пра Беларусь. Выглядае што дэмакраты у палітыцы вызваленьня пойдуць толькі да мяжы 1939 году, ізноў тая самая дыскрымінацыя што і раней свабода, але ня ўсім. Далей дэмакратычная плятформа абяцае падтрымку нацыянальнай прэсе у ЗША, а рэспубліканская нават аб гэтым і не успамінае.

Гэтыя і іншыя праблемы павінны быць узятыя пад увагу новай адміністрацыяй каб асягнуць забэзпячэньне для Амэрыкі і свабоду для народаў незалежна ці яны паняволеныя у Афрыцы ці Савецкім Саюзе. Перад заканчэньнем я хацеўбы зазначыць што мы Амэрыканцы беларускага паходжаньня мелі вельмі вялікую падтрымку людзей і афіцыяльных асобаў ад абаіх партыяў.

Таксама хачу яшчэ сказаць што адносна выбараў была прынятая адмысловая рэзалюцыя на Сустрэчы у Клевэляндзе 4 верасьня сёлета (цытуецца адпаведні параграф) за якіх кандыдатаў мы будзем галасаваць незалежна да якое ён налезаўбы партыі. А галоўнае што мы будзем галасаваць за такога кандыдата, які на нашую думку будзе адпавядаць найлепш на становішча Прэзыдэнта. Дзякую».

# З успамінаў Слуцкага Паўстанца

(Заканчэньне з 6-ай бачыны)

й Карцевічы. Жылі па хатах — хто з чаго, галоўна памагалі на гаспадарках. У сакавіку 1921 г. усіх нас паўстанцаў узяў пад сваю апеку генэрал Булак-Балаховіч. Быў сфармаваны цэлы батальён. Дзьве роты стаялі ў Новым Месьце ў Нясьвіжы, а дзьве ў Пахабаўшчыне й Карцевічах. Мы лічыліся як работніцкія дружыны, атрымвалі жаўнерскі паёк. Камандзеры Гаўрыловіч, Самусевіч і Мацеля набіралі ахвотнікаў і хадзілі партызаніць на савецкі бок. Капітан Гаўрыловіч меў аддзел 150 стральцоў, капітан Самусевіч — 100. Нашы партызанскія аддзелы дзеілі ля мястэчка Магільнага, ля Капыля, Пясочнага, ля маёнткаў Рым, Квяцяны й іншых. Мэтай нашых паходаў было змагацца з бальшавіцкімі камісарамі, актывістымі й бальшавіцкай міліцыяй. Вельмі шмат памаглі нам мясцовыя сяляне.

У сувязі з гэтымі паходамі савецкі міністар замежных справаў Чэчэрын выслаў польскаму ўраду войструю ноту пратэсту, вінавацячы Польшчу ў парушэньні правілаў дабрасуседзкіх дачыненьняў ды ў падтрымваньні й узбройваньні бандаў (так звалі нас бальшавікі), што ходзяць па савецкай тэрыторыі й руйнуюць мясцовую савецкую ўладу. Пра напады на мясцовых камуністых шмат пісалася тады ў бальшавіцкім друку. Савецкі ўрад прыгразіў Польшчы вайною у выпадку, калі яна ня спыніць свайго падтрымваньня антысавецкіх партызанаў.

Савецкі пратэст дасягнуў свае мэты, тым больш, што тады ўжо па цэлай Заходняй Беларусі пачало актывізавацца беларускае нацыянальнае жыцьцё, на што Палякі глядзелі няпрыхільным вокам. Мы даведаліся праз сваіх камандзераў, што Палякі зьбіраюцца паарыштоўваць нас і выдаць назад бальшавіком. Зь Вільні ў Нясьвіж прыяжджалі доктар Паўлюкевіч і Жаўрыд з захадамі, каб не дапусьціць да выдачы нас, але, відавочна, нічога ў Палякоў не дамагліся. Пасьля гэтага прыяжджаў з Лунінца палкоўнік Дзяркач. У Нясьвіжы на Броварскай вуліцы Новага Места, у штабе Грозаўскага палка, ён заявіў, што сфармаваў аддзел з тысячы чалавек пад назовам «Зялёны Дуб». Шмат хто з грозаўцаў далучыўся да партызанаў палкоўніка Дзяркача і, узброіўшыся, яны перайшлі на савецкую тэрыторыю ды ўмацаваліся ў Грэскай пушчы за Вераб'ёвам, каля дваццацёх кілямэтраў ад Слуцка.

Адначасна ў Польшчы пачаліся арышты ўдзельнікаў Слуцкага паўстаньня пад прыкрыўкай змаганьня з камуністычнымі ўплывамі — ведамая тактыка Палякоў у дачыненьні да беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

**Ю. Х.**

### ГАЗАФІКАЦЫЯ МЕНСКУ

30 кастрычніка сёлета закончана будаўніцтва газаправоду Дашава-Менск. Газ будзе падавацца ў Менск з Карпатаў, перасякаючы рэкі й рэчкі, балоты, дарогі. У сувязі з тым, што праз імклівую рэчку Стыр ня было магчымасьці пракласьці трубы, яны падвешаны на паверхні пры дапамозе спэцыяльных уладжаньняў. Заплянавана газ правесьці ў 16,5 тысяч кватэр у Менску, а таксама перавесьці частку прадпрыемстваў на газ. Падлічана, што газафікацыя толькі часткі Менску зьменшыць на 100 тон пылу штодзённа ў горадзе.



Траўка ў ляску у цяньку вырастае,
Корміцца сокам зямелькі сырой;
Птушка шчабеча — людзей пацяшае;
Льлецца крынічка, плюскоча вадой.

Ночкай ля рэчкі раздольна, прывольна!
Гуртам русалкі сьмяюцца, пяюць;
Кветкі купальскай шукае бяздольны;
Зь зельлем шаптухі пацііху снуюць...

Хочацца быць мне ў тым краі нязнаным,
Хочацца край той абняць з прастаты,
Хочацца крыкнуць: гэй, краю каханы,
Будзь мне, як маці, будзь родным мне ты!

Дай мне зрабіцца крынічкай лясною,
Бераг вадой абмываць, цалаваць;
Дай мне век цэлы дружыці з табою,
Хвойкі і зоры ў сабе адбіваць.

Дай мне купальскую кветку у рукі,
Путы зялезныя мне разьвяжы,
Дай ты мне зельля на гора і мукі,
К шчасьцю гасьцінец мне дай, пакажы.

. . . . . . . . . . . .

Ціха. Нічога ня чую, ня бачу.
Роіцца толькі нязьведаны край,
Повен то шчасьця, то жаласьці, плачу,
То зло-хмурлівы, то сьветлы, як рай...

1908

* * *

Як надарыцца мінюта,
Што ад працы адарвуся,
І жыцьцёвая атрута
Не пячэць, і прахаплюся,
Дык цябе, мой Родны Краю,
Шчырай думкай аблятаю.

Ты няшчасны і убогі,
Ты бяздольны і забіты,
Ты бяз шляху, без дарогі,
Ты абдзёрты і прапіты,
Подлай здрадаю прададзены,
Ты ня свой, — даўно забраны.

Меў вялікія кляйноды,
Быў і моцны і багаты, —
Задзіўляліся народы, —
А дазнаўся горкай страты.
Сохнеш, вянеш, — вокам кіну,
Аж здаецца, што загінуў...

А як сонейка устане
І прыемна усьміхнецца,
Па палетках, на кургане,
І па вёсцы разьліецца,
Як паводка, — Родны Краю,
Над цябе тады ня маю!..

Ты кваціцты, залацісты,
І прыгожы, і аздобны,
Ты лясісты, каласісты, —
Можа рай табе падобны.
Колькі-ж моцы маеш скрытай,
Колькі сілы неспажытай!

Ты паўстанеш, працавіты,
Гаратнічы, нявымоўны,
Шчасьця, долі прагавіты,
Мой санечны, мой чароўны!
Будзе час, пабачаць сьветкі,
Хоць ня мы, дык нашы дзеткі.

1913

* * *

Хай ня льлюцца дажджы цёмна-хмарныя
Над зьмярцьвелаю пашаю,
Хай пачнуцца гады хлебадарныя
Над зямелькаю нашаю.
Хай красуецца жытам, пшаніцаю
Каласочкамі цяжкімі,
Хай змацуецца Боскай правіцаю
І ўсятворчымі ласкамі.
Хай асьвеціцца праўды навукаю
І братэрскаю згодаю,
Хай зьнявечаца крыўда з прынукаю
За яе загародаю.
Хай ўзьлятаець хвала яе племені,
Упякнёнага цнотамі,
Хай шыбаець над скаламі з крэменю,
Над арлінамі ўзьлётамі.

* * *

Мілая, родная старонка-маці!
Моцна цябе я і шчыра люблю, —
Бедныя ніўкі твае, сенажаці
І нешчасьлівую долю тваю.

Горам, матуля, цяпер ты замучана,
Стогнам спавіта у сець з ланцугоў,
Рукі і ногі да слупа прыкручаны, —
Ціха наругу ты зносіш бяз слоў.

Толькі-ж уцешся, матуля каханая!
Слуп твой патроху пачаў падгніваць, —
Прыйдзе к нам воля, сьвятая, чаканая,
Сець з ланцугоў як пачнём разрываць.

### ВАЎКАЛАКІ

Ваўкалакі цёмнай ночы
З дамавін выходзяць
І лятаюць скрозь па сьвеце, —
Сабе жыр знаходзяць:
Дзе старое ці малое
Сьпіць у сьне глыбокім,
Ваўкалака падсьцігае
Ненасытным вокам.
Не пачуеш, як узьляжа
На грудзёх навала,
Не пачуеш, як ён з сэрца
Высьсе кроў памалу.
Галасіста-ж па сьвітаньні
Засьпяваюць пеўні, —
Ваўкалака адлятае
Неахвоча, гнеўны.
Па старонцы роднай здаўна
Ваўкалакі ходзяць,
Але-ж пеўні не сьпяваюць, —
Сонка ня ўзыходзіць!..

(Працяг будзе)

# Таямніцы замчышча

**Ад Рэдакцыі:** У менскай «Зьвязьдзе» з 18 кастрычніка сёлета зьмешчаны цікавы артыкул аб археалягічных раскопках у Менску. Гэты артыкул, з гледзішча на яго цікавасьць для кажнага Беларуса і дакумэнтацыйнасьць, зьмяшчаем гэтта поўнасьцяй.

*

З кажным днём прыгажэе і маладзее наш Менск. Гледзячы на ягоныя шырокія праспэкты й новыя дамы, цяжка паверыць, што гораду ўжо каля 900 год. Першы летапісны ўспамін пра Менск адносіцца да 1067 году. На жаль, разьяднаныя летапісныя крыніцы данесьлі да нас надзвычай скупыя й аднабаковыя зьвесткі аб старажытным Менску. Да апошняга часу адзінай крыніцай нашых ведаў застаўся летапіс. Толькі ў самых агульных рысах мы былі знаёмы з буйнейшымі падзеямі палітычнай гісторыі гораду. Яго матар'яльная культура, рамяство, гандаль, тэрыторыя, вонкавае аблічча — усё гэта было нам невядома. Больш таго, некаторыя моманты ў летапісных паведамленьнях аб Менску выклікалі сумлевы.

Упяршыню рэшткі старажытнага Менску былі выяўлены ў 1945 годзе на невялікім узвышшы, разьмешчаным у раёне цяперашняй плошчы імя 8 сакавіка, якая даўно была вядома пад назвай Замку або Замчышча. На працягу адзінаццаці год Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР праводзіць тут археалягічныя раскопкі. Яны далі магчымасьць пановаму паглядзець на пачатковую гісторыю гораду.

Вельмі выразна малюецца ўзьнікненьне Менску. У другой палавіне XI стагодзьдзя на невялікім узгорку на правым беразе Сьвіслачы, абароненым з поўначы забалочаным лугам, узводзіцца магутны земляны вал, які меў у васнове складаную драўляную канструкцыю зь бярвеньняў. Неўзабаве вал быў яшчэ больш расшыраны й павялічаны ў вышыню. Наверсе валу, як відаць, праходзіла драўляная крапасная сьцяна. Сьляды яе, на жаль, не захаваліся.

Цікава, што вал у дакладнасьці супаў з валам, які абазначаны на гістарычных плянах Менску XVIII і XIX стагодзьдзяў. Значыць, пляны зафіксавалі яшчэ добра прыкметны тады старажытны вал, і гэта дало нам шчасьлівую магчымасьць дакладна ўстанавіць тэрыторыю ўмацаванай часткі — крамля — старажытнага Менску.

Менскі крэмль займаў усю тэрыторыю, якая на плянах XVIII—XIX стагодзьдзяў заключана ўнутры валу. Ён расьпасьціраўся ад ракі Сьвіслач на паўночны захад да сучасных вуліц Падзамкавай і Завальнай. У першы час горад, відавочна, ня выходзіў за межы гэтае цьвярдыні. Але ўжо ў XII стагодзьдзі тэрыторыя яе становіцца недастатковай. Побач з крамлём узьнікае і ўсё больш разрастаецца рамесны раён — пасад. Разьведвальныя раскопкі й назіраньні за землянымі работамі, якія вядуцца ў горадзе, выявілі сьляды пасаду ў розных мясцох на поўдзень, паўднёвы ўсход і ўсход ад Замчышча.

Старannае вывучэньне абаронных збудаваньняў гораду паказала, што Менск узьнік першапачаткова як умацаваны пункт. Неўзабаве пасьля заснаваньня гораду ў яго ўсходняй частцы была закладзеная каменная сьвятыня. Пры раскопках знойдзена шмат рэчаў, зьвязаных з ваенным бытам жыхароў старажытнага Менску — дэталяў мечаў, наканечнікаў коп'яў, стрэл, шпор, страмёнаў і г. д. Усё гэта пацьвярджае вывад, што Менск узьнік як ваеннае паселішча, як паўднёвая парубежная цьвярдыня Полацкай зямлі. Гэты вывад знаходзіцца ў поўнай адпаведнасьці й з характарам пісьмовых крыніц, якія асьвятляюць палітычнае становішча Полацкага княства.

Менск — складаны й вельмі каштоўны ў навуковых адносінах археалягічны помнік. Старажытныя культурныя напластаваньні, у якіх ёсьць рэшткі матар'яльнай дзейнасьці людзей, дасягаюць некалькіх мэтраў.

Вулічнае плянаваньне складалася ў Менску ўжо ў XI стагодзьдзі. Пры раскопках адкрыта некалькі вуліц, забрукаваных драўляным насьцілам, які рэгулярна кажныя 10—15 год абнаўляўся. Так, адна з вуліц на працягу двух стагодзьдзяў перабрукоўвалася 14 разоў. У канцы XI стагодзьдзя, пасьля вялікага пажару, які можна зьвязваць з разбурэньнем Менску ў 1084 годзе Уладзімерам Манамахам, склалася плянаваньне, што зь невялікімі зьменамі праіснавала да XV стагодзьдзя.

У працэсе археалягічных раскопак вывучана ў васноўным усходняя частка крамля, якая падыходзіла да Сьвіслачы. З поўначы на поўдзень яе перасякала вуліца шырынёй каля чатырох мэтраў. Яна вяла да вежы варот, разьмешчаных у паўднёвай частцы крамля, сьляды, якіх былі выяўлены ў гэтым горадзе ля Палацу спорту працоўных рэзэрваў.

Па свайму вонкаваму абліччу старажытны Менск мала чым адрозьніваўся ад іншых драўляных гарадоў Русі. Гарадзкая тэрыторыя была падзелена на асобныя ўчасткі пад сядзібы, якія мелі выгляд замкнутых двароў, забудаваных жылымі й гаспадарчымі збудаваньнямі. Адна з адкапаных сядзіб мела дзьве жылыя хаты й чатыры-пяць гаспадарчых пабудоў. Новыя будынкі, што ўзводзіліся на месцы старых, звычайна дакладна паўтаралі іх плян і разьмеры. На менскім Замчышчы выяўлена каля 80 будынкаў.

Асноўнай пабудовай — як жылой, так і гаспадарчай — быў наземны драўляны зруб. Усе пабудовы зроблены сякерай. Хаты ў большасьці выпадкаў былі невялікія — 16-25 квадратных мэтраў. Амаль усе жылыя будынкі мелі драўляную падлогу. У куце жылой хаты ўправа або ўлева ад дзьвярэй разьмяшчалася нізкая глінабітная печ. Печы ня мелі комінаў і паліліся «пачорнаму».

Яшчэ ў 1949 годзе на Замчышчы быў адкрыты фундамант каменнай царквы. Як паказалі раскопкі, яна па нейкіх прычынах ня была дабудавана. Тым ня менш, закладзеная, паводля ўдакладненых даных, у другой палавіне адзінаццатага стагодзьдзя, менская сьвятыня па сваёй кампазыцыі прадугадала мастацкія архітэктурныя прынцыпы, якія набылі разьвіцьцё толькі пазьней — у фэадальны пэрыяд Русі. У адрозьненьне ад аналягічных старажытнарускіх манумэнтальных збудаваньняў сьцены сьвятыні ўзводзіліся са змацаванага растворам бутавага каменьня. Унутры сьцены абліцоўваліся абчасанымі вапнавымі пліткамі.

Вельмі цікавае адкрыцьцё зроблена ў гэтым годзе. У пластох XII—XIII стагодзьдзяў побач з брукам, які праходзіў каля валу, выяўлены драўляныя дрэнажныя трубы для адводу грунтовых вод у раку. Па гарадзкому добраўпарадкаваньню старажытны Менск стаяў на ўзроўні перадавых гарадоў таго часу.

Узьнікшы як ваенная цьвярдыня, Менск, аднак, хутка становіцца буйным цэнтрам рамяства й гандлю. Археалягічныя знаходкі добра характарызуюць гаспадарчае жыцьцё гораду. Інструманты, загатоўкі, паўфабрыкаты, сыравіна, й шматлікія гатовыя вырабы сьветчаць аб тым, што ў горадзе існавалі амаль усе асноўныя віды сярэднявяковага рамяства.

Мэталяграфічныя дасьледваньні паказалі, што менскія кавалі ўмелі варыць сталь, зварваць яе зь зялезам, ведалі тэрмічную апрацоўку, памайстэрску валодалі прыёмамі абточкі, пайкі, пакрыцьця зялеза іншымі мэталямі і інкрустацыяй.

Апрача кавалёў, у Менску жылі ювэліры, ганчары, аружэйнікі, майстры па дрэву, скуры, тканінах, косьці й каменю.

Вялікая роля ў гаспадарчым жыцьці гораду належала розным дамовым промыслам, земляробству, жывёлагадоўлі, зьбіральніцтву, паляваньню, рыбалоўству. Сярод знойдзеных зярнят ёсьць жыта, пшаніца, ячмень, проса, бабовыя расьліны й інш. З хатняй жывёлы пераважала сьвіньня, затым карова й авечка.

Некаторыя матар'ялы з раскопак Замчышча кідаюць сьвятло на гандлёвыя сувязі Менску зь іншымі землямі Русі й суседнімі краінамі. Цікавая знаходка выяўленая ў пласьце канца XI стагодзьдзя. Гэта — сьвінцовая плёмба з малюнкам князя. Такія плёмбачкі прывешвалі на рускія тавары, якія экспартаваліся за граніцу. Відавочна, і менскія купцы бралі пэўны ўдзел у вывазе тавараў на Захад. Частай знаходкай зьяўляецца бурштын, які прывозіўся з Прыбалтыкі.

Раскопкі менскага Замчышча прыадкрылі заслону над найбольш старажытным мінулым гораду. Але мы яшчэ стаім на пачатку шляху. Шмат цікавых праблем чакае свайго разьвязаньня. Мы па сутнасьці зусім ня ведаем пасаду. Пасад і сельскае акружэньне Менску стануць галоўнымі аб'ектамі будучых дасьледваньняў, якія, бясспрэчна, дадуць багаты матар'ял для важных сацыяльных (і гістарычных — Рэд. «Б-ны») абагульненьняў.

**Э. Загарульскі**

Начальнік Менскай археалягічнай экспэдыцыі Інстытуту гісторыі АН БССР

# Зь беларускага жыцьця

## ГАДАВЫ СХОД БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ ДАПАМОГІ (БАД)

У нядзелю сёлета ў памяшчэньні Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Брукліне адбыўся гадавы сход Беларуска-Амэрыканскай Дапамогі (Whiteruthenian-American Relief, Inc.).

Сход адчыніў старшыня БАД сп. Антон Шукелайць, вітаючы Яго Праасьвяшчэнства Ўладыку Васіля й прадстаўнікоў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў Нью Ёрку. У прэзыдыюм сходу былі выбраныя сп. Кастусь Мерляк — старшыня й сп-ня Галіна Орса — сакратар.

Справаздача ўправы Беларуска-Амэрыканскай Дапамогі (БАД) была даволі скромная, бо дзейнасьць гэтае арганізацыі за мінулы год была абмежаная з прычынаў, як выявілася ў дыскусіі, зусім незалежных ад управы й ад беларускага грамадзтва наагул. Із справаздачы прысутныя даведаліся аб акцыі дапамогі патрабуючым Беларусам у Нямеччыне, Францыі, Польшчы й БССР, а таксама адкуль паступалі грошы на гэтую дапамогу. Паводля свайго разьмеру дапамога была невялікая, але на большую ня было магчымасьці дзеля скромных уплываў грошаў у касу БАД.

У выніку праведзенай дыскусіі была прынятая пастанова наступнага зьместу: «Сход прапануе ўправе БАД усіліць намаганьні ў стварэньні новай дапамаговай арганізацыі ў Мюнхэне дзеля ўспраўненьня дапамогі патрабуючым Беларусам у Нямеччыне».

Уступаючай управе было прызнанае абсалюторыюм з падзякаю.

У новую ўправу былі выбраныя: сп. А. Шукелайць — старшыня, сп. сп. Г. Орса, Н. Стома, А. Протас і Ул. Курыла — сябры.

Беларуска-Амэрыканская Дапамога зьяўляецца адносна новай арганізацыяй і дзеля гэтага мала ведамай беларускаму грамадзтву паза Амэрыкай. Аб залажэньні гэтае арганізацыі было пастаноўлена на 7-ым зьезьдзе БАЗА ў 1957 г. у сувязі з тым, што Сацыяльны Рэфэрат БАЗА, які да гэнага часу праводзіў дапамаговую акцыю, ня мог быць залічаны ўладамі ЗША ў катэгорыю дапамаговых арганізацыяў паводля характару свайго статуту. Таму зьезд БАЗА палічыў патрэбным дапамаговую акцыю выдзяліць з БАЗА, каб мець падтрыманьне з боку ўраду ЗША. Такім чынам беларуская дапамаговая акцыя ў Амэрыцы сяньня падзеленая: Сацыяльны Рэфэрат БАЗА дапамагае толькі сябром БАЗА і наагул Беларусам у Амэрыцы, а Беларуска-Амэрыканская Дапамога — Беларусам за межамі Амэрыкі.

Кантроля над дапамаговымі арганізацыямі ў Амэрыцы ёсьць вельмі срогая, якая дакладна праводзіцца Дэпартамантам Штату кажнага штату Амэрыкі. Рэгістрацыя і ўсякія іншыя праўныя фармальнасьці з боку Беларуска-Амэрыканскай Дапамогі ўжо выкананыя, асталася толька справа звальненьня ад падаткаў сяброў Дапамогі ад тэй сумы заработку, якая выплачваецца імі на дапамаговую акцыю.

Калі БАД выкажацца адпаведнай дзейнасьцяй і закончыць усе арганізацыйныя фармальнасьці, яна будзе прынятая ў Фэдэральны Камітэт Дапамаговых Арганізацыяў Амэрыкі. Тады ёй будзе прыдзяляцца дапамога для разьдзелу патрабуючым паза межамі Амэрыкі, зь якое да гэтага часу карысталіся й карыстаюцца дапамаговыя іншанацыянальныя арганізацыі. Каб БАД магла выказацца належнай дзейнасьцю, ёй павінны ў гэтым дапамагчы іншыя беларускія арганізацыі, беларускія парахвіі й перадусім ўсё беларускае грамадзтва, асабліва тыя, што нядаўна самі карысталіся з грамадзкае дапамогі.

**Д. Маяк**

# Вялікая Маніфэстацыя Свабоды

**(Карэспандэнцыя з Мэльбурну, Аўстралія)**

У суботу 5-га лістапада ў вадной з найбольшых заляў аўстралійскага гораду Мэльбурну адбылася вялікая маніфэстацыя свабоды прадстаўнікоў паняволеных камунізмам народаў.

У маніфэстацыі прыймалі ўдзел: Аўстралійска-Кітайскае Задзіночаньне, Антыкамуністычная Ліга Азіяцкіх Народаў, Антыбальшавіцкі Блёк Народаў, Камітэт Народаў з за Зялезнай Заслоны й Задзіночаны Балтыйскі Камітэт. Маніфэстацыя была зарганізаваная на вельмі шырокай плятформе з удзелам усіх антыбальшавіцкіх арганізацыяў штату Вікторыя. Гэта ўжо другая з чаргі такая маніфэстацыя (першая адбылася ў мінулым годзе).

Задзіночаньне Беларусаў у Вікторыі, як сябра Камітэту Народаў з за Зялезнай Заслоны, прыняло вельмі актыўны ўдзел у маніфэстацыі. Згодна з распадзелам функцыяў на паседжаньні Арганізацыйнага Камітэту, Беларусам выпала заданьне распаўсюджваньня праграмаў і лістовак, а так-жа зьбіраньне ахвяраў на пакрыцьцё выдаткаў, зьвязаных з маніфэстацыяй. З гэтай ролі Згуртаваньне Беларусаў штату Вікторыя вывязалася вельмі добра.

Маніфэстацыя адбылася пад кіраўніцтвам мэра гораду Мэльбурна Бэрнарда Івэнса. У маніфэстацыі, апрача прадстаўнікоў паняволеных бальшавізмам народаў, прынялі ўдзел і шматлікія Аўстралійцы на чале з прэм'ер-міністрам Аўстраліі Робэртам Мэнцісам, сэнатарам Фр. Мэк Манусам і іншымі палітычнымі й грамадзкімі дзеячамі.

Побач трыбуны прадстаўнікі паняволеных народаў трымалі свае нацыянальныя сьцягі. З прамоўцаў на асаблівую ўвагу заслугоўвалі мэр гораду Івэнс, сэнатар Мэк Манус і прэм'ер-міністар Мэнціс.

Мэр Івэнс заклікаў прадстаўнікоў паняволеных народаў штогод ладзіць маніфэстацыі свабоды, «каб агонь волі не пагас, каб рэха маніфэстацыі разносілася шырэй і шырэй і каб яно дакацілася да тых, якія й сяньня знаходзяцца яшчэ ў паняволеньні».

Вялікі прыяцель эмігрантаў ведамы антыкамуністычны дзеяч сэнатар Франк Мэк Манус у прамове, часта перарыванай гучнымі воплескамі, між іншым закрануў пытаньне мірнага суіснаваньня паміж камуністычнымі дзяржавамі й дзяржавамі вольнага сьвету. «Суіснаваньне, — казаў прамоўца, — гэта толькі часовае ўспакаеньне. Часовае ўспакаеньне Гітлера не ўсьцерагло сьвету ад вайны, успакаеньне ўступкамі Хрушчова таксама не ўсьцеражэ сьвету ад вайны».

Выступленьне прэм'ер-міністра Мэнціса было сустрэтае доўга нясьціхаючымі воплескамі прысутных. «Аднэй з найбольшых трагэдыяў нашага часу, — гаварыў прэм'ер Аўстраліі — ёсьць тое, што народы, якія доўга й цяжка змагаліся за волю на працягу іхнай гісторыі, знаходзяцца й цяпер пад уладай Савецкага Саюзу. І калі Савецкі Саюз узапраўды хоча міру, дык гэтае сваё хаценьне ў першую чаргу павінен давесьці тым, каб даць свабоду паняволеным народам».

У рэзалюцыі, прынятай удзельнікамі маніфэстацыі, быў заклік да ўраду Аўстраліі і ў далейшым змагацца за рэстытуцыю людзкіх правоў для ўсіх людзей, якія знаходзяцца ў паняволеньні, правоў, якія загарантаваныя Дэклярацыяй Задзіночаных Нацыяў.

Хвілінай цішыні была ўшанаваная сьветлая памяць усіх тых, што аддалі жыцьцё ў змаганьні за волю, мір і справядлівасьць.

У мастацкай частцы маніфэстацыі выступаў латыскі мяшаны хор пад кіраўніцтвам сп. Бэндрупса, кітайскі тэнар сп. Ху-Тыг-Вэн, украінскі танцавальны ансамбль і вугорскі балет.

Ня гледзячы на дрэнную пагоду, у маніфэстацыі прыняло ўдзел каля трох тысячаў асобаў. Маніфэстацыя адбілася гучным рэхам у аўстралійскай прэсе й радыё.

**К. А.**

*Фэльетон*

# Пра выцісканьне сокаў і гультаёў-абібокаў

У краіне сацыялізму, кажуць, людзі шчасьлівыя. Яны працуюць звыш нормы, спаборнічаюць. Нямала ўжо за стараннаую працу і мэдаляў людзям паначаплялі. І залатых і сярэбраных, і проста бляшак — розных там ардэноў. Толькі ў краіне Саветаў такі росквіт! Паглядзеце савецкае кіно, тэлевізію, савецкую п'есу ў тэатры, разгарнеце газэту, часапіс! Усюды ўбачыце ўзнагароджаных. Зоркі ды мэдалі зіхацяць на грудзёх. Ажно ў вачох стракаціць!

І савецкая прапаганда лезе ў вушы. Вось, маўляў, якое жыцьцё ў нас! Любуйцеся. Усе людзі жывуць заможна. Гэта вам не капіталістычны сьвет! Там — бядота, голад. Там выціскаюць апошнія сокі з працоўных. Там — няма адпачынку, там тарарам і гэтак далей.

А кажны грамадзянін у Савецкім Саюзе добра ўсё разумее! Што да выцісканьня сокаў, дык ня трэба пальцам на захад тыкаць. У сваім доме ўсяго нагледзішся. Пад чырвоным прэсам, уга, як выціскаецца! Тут і камуністычныя брыгады. І пераходныя сьцягі, і ганаровыя дошкі. І ў газэтах артыкульчыкі. І патрэты актывістых. І заклікі ўсякіх тысячнікаў. Усё сьціравана на тое, каб паднатужваліся ў працы, каб выконвалі й перавыконвалі пляны.

Дзе такое заграніцай убачыце? Такое выцісканьне сокаў? А ў Савецкім Саюзе, як у макатры. І ня толькі сокі, але і душу ціснуць. А заробак? Сорам прызнацца. На касьцюм не наскрабеш за месяц. Шмат працуеш і нічога ня маеш. А савецкая ўлада вінаватых шукае. Гультаі, кажа, разьвяліся. Абібокі, дармаеды, лодыры. Яны наша жыцьцё псуюць. Не працуюць, не памагаюць сацыялістычнаму будаўніцтву. Трэба іх выкрываць, на ганьбу выставіць гэтых «маміных сынкоў». І пачалі іх лаяць у газэтах. Чаго толькі ня пішуць! Мала таго. У часапісе «Камуніст» нумар 14 гэтак злосна напалі на дармаедаў, што навет прапануюць пераглядзець крымінальны кодэкс СССР. Даволі цацкацца! Трэба суровую кару на іх прыдумаць, на дармаедаў гэтакіх!

Адным словам, пачалася кампанія: хрушчовы паход на гультаёў. А калі ўжо гэтак — хочаш ня хочаш, а трэба знайсьці паразіта. Трэба яго ў кажным калгасе адшукаць. І ня толькі ў прэсе, а і ў радыё павінны абурацца на такі «буржуазны перажытак».

Вось нядаўна і выступіў у менскім радыё Віктар Шымук. Зь вершаваным фэльетонам на гэтую тэму. Пра Кацю. Напэўна аўтар прыгадаў сабе песеньку «Кацюша». Тая выходзіла на круты бераг ды песьні пела. Таксама абібок. Чаму яна, гэтая Каця, не на полі на трактары? Бачыш ты, пра шызага арла, пра свайго каханага думае. Вось тут Віктар Шымук знайшоў удалы прыклад. Каця ў яго кавалерам песьні пяе. Сёлета ў інстытут экзамен трымала. Правалілася. У другі інстытут прабуе. А ў калгасе працаваць ня хоча! І неяк удалося — паступіла ў вышэйшую школу.

Аўтар гіранічна канчае фэльетон:

Што э тэй Каці будзе
Праз год, два — ня знаю,
Абібокам людзі
Кацю называюць.

Пасьля такога фэльетону ў радыяперадачы ўзяла слова калгасьніца Яўгеня Гліцкая з калгасу імя Леніна Мазырскага раёну. Яна сказала пару слоў аб героях сацыялістычнай працы і адразу села на каня прапагандовай карузэлі, паскардзілася: «Мне хочацца сказаць аб тых, хто ідзе наперакор нашаму агульнаму руху. Вось, напрыклад, мае аднавяскоўцы: Іван Сіліп і Сьвятлана Ярома. Яны скончылі дзесяцігодку, атрымалі атэстаты сьпеласьці й нідзе не працуюць, і жывуць за кошт сваіх бацькоў і сясьцёр».

Далей калгасьніца пра іх нічога не гаворыць. Навет і не абазвала абібокамі ці дармаедамі. Відаць, проста выконвала свой цяжкі абавязак. Трэба сказаць і пра такіх. Вось і сказала «аб тых, хто ідзе наперакор нашаму агульнаму руху».

А ці ўзапраўды гэтыя прыгаданыя асобы каму шкоду прыносяць? Яны скончылі сярэднюю школу й не працуюць. Жывуць у сваіх родных. А што за клопат чужому чалавеку ў сямейнай справе? Можа яны, як тая Каця, у нейкі інстытут рыхтуюцца. Сам фэльетаністы Кацю не асуджае. На людзей звальвае. Кажа: людзі яе абібокам называюць. Людзі, можа, заадно і самога фэльетаністага ў дармаеды залічылі. Ён-жа таксама, бачыце, ня хоча ў калгасе працаваць. Толькі пасьміхваецца, фэльетоны піша.

Дык годзе аб гэтым. Трэба шырэй разгарнуць кампанію супраць гультаёў. Трэба ўсіх дармаедаў выкрыць! І не абы якіх! Нашто калгасьнікаў ці бедных студэнтаў чапаць? Навет і фэльетаністага пакінем у спакоі. Устрасянем лепш верхавіну сацыялістычнага грамадзтва. Напрыклад, ЦК КПСС. Там дармаедаў шмат. І яны ўзапраўды ціснуць сокі з народу.

**К. Р.**

## ПРЫВІТАНЬНЕ

З нагоды 10-ых угодкаў Беларуска-Амэрыканскага Акадэмічнага Таварыства вітаем і жадаем шмат плённае працы для дабра самога Таварыства, а такжа й усяе беларускае грамадзкасьці. Няхай беларуская маладая інтэлігенцыя на эміграцыі дастойна выканае свае заданьні ў вызвольным змаганьні беларускага народу за незалежнасьць нашай паняволенай Бацькаўшчыны Беларусі!

**С. Гутырчык**
**Старшыня Беларуска-Амэрьканскага Задзіночаньня, Аддзелу Саўт Рывэр, Нью Брансьвік**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік
РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць нагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.